№ 82 (3925)
21 кастрычніка 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

УЧОРА

# ...І зноў «імем рэвалюцыі»

Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў выпрацаваць меры для таго, каб прымусіць утрыманцаў працаваць, і спыніць бясплатную раздачу дзяржаўных даброт. Аб гэтым ён заявіў учора на нарадзе па пытаннях занятасці і міграцыі ў Беларусі.

*"Як мне дакладваюць, каля 500 тысяч нашых грамадзян не задзейнічаны ў эканоміцы краіны. Няхай 100 тысяч — гэта хатнія гаспадыні і тыя, хто працуе на ўласным падворку. А 400 тысяч чым займаюцца? За чый кошт жывуць?"* — сказаў ён.

Прычым гэтыя і іншыя ўтрыманцы карыстаюцца ўсімі выгодамі дзяржавы, атрымліваюць бясплатную адукацыю, медыцынскае абслугоўванне, аплачваючы паслугі ЖКГ па дацыраваных дзяржавай тарыфах. А потым яшчэ прыходзяць да дзяржавы і патрабуюць годную пенсію.

*"Час спыняць гэта ўтрыманства, 400 тысяч чалавек павінны быць уцягнуты імем рэвалюцыі ў работу. Лайдакоў не павінна быць у краіне. Трэба прымусіць гэтых людзей працаваць і спыніць раздаваць бясплатна даброты тым, хто не працуе"*, — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка.

Гэта не першая спроба ўлады падступіцца да тых, хто не мае афіцыйнай работы альбо працуе за межамі краіны і не плаціць падаткаў у беларускі бюджэт. Ужо не аднойчы з вуснаў першых асоб гучала меркаванне, што трэба прымусіць гэтых людзей плаціць за тое ж медыцынскае абслугоўванне альбо на ўсе сто працэнтаў аплачваць паслугі ЖКГ. Гэтым разам нават прызначаны адказныя асобы, якія ўнясуць прапановы. Імі сталі кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта **Андрэй Кабякоў** і дзяржаўны сакратар Савета бяспекі **Аляксандр Мяжуеў**.

БЛІЦ-КАМЕНТАРЫЙ

# Былы міністр працы: без канцлагераў Лукашэнка гэтую праблему не вырашыць

*Чым абернецца сілавая методыка прымусу людзей да працы? Разважае былы міністр працы* ***Аляксандр САСНОЎ****.*



— Мне цяжка сказаць, як канкрэтна Аляксандр Лукашэнка будзе прымушаць людзей працаваць. Мяркуючы па вопыце яго папярэднікаў, якія спрабавалі людзей прымушаць працаваць на карысць дзяржавы, акрамя як канцлагерамі гэтая праблема не вырашыцца.

**— Пра праблему ўтрыманцаў размовы вядуцца ўжо як мінімум два гады, але ні дыферэнцыраванага падаткаабкладання, ні падатку на "дармаедства" так да гэтага часу ўведзена не было. Чаму?**

— Справа ў тым, што не ўсё так проста, як можа здацца на першы погляд, калі вылучаецца ідэя. Але потым аказваецца, што столькі падводных камянёў, якія альбо яе скрывяць канчаткова, альбо не дадуць чаканага эфекту, а толькі запатрабуюць яшчэ большых выдаткаў. Таму ўсе гэтыя "ідэі", груба кажучы, — ад "розумам бедных".

**— Чым выклікана патрэба тэрмінова прымусіць беспрацоўных працаваць?**

— Патрэба гэта выклікана адным: жахлівым станам эканомікі. Тым больш што галоўны "спонсар" (*маецца на ўвазе Расія. —* **Рэд.**) таксама пачынае адчуваць вялікія цяжкасці са сродкамі, і ў выніку трэба шукаць любыя магчымасці, дзе б папоўніць бюджэт.

**— А чаму людзі ў Беларусі не хочуць працаваць?**

— Вы думаеце, гэта толькі ў Беларусі? Гэта паўсюдна. Гэта ж блакітная мара кожнага нармальнага чалавека: як жыць і не працаваць. А чаму людзі не працуюць? Ды таму што значная частка гэтых людзей мае іншыя крыніцы даходаў, не хоча працаваць за капейкі і гэтак далей. Акрамя як у канцлагерах такія людзі працаваць не будуць. У чалавека, напрыклад, тры кватэры, ён іх здае, і яму хапае на жыццё. Ён нейкім чынам зарабіў раней. Ці атрымаў спадчыну. Ці мае сваякоў за мяжой, якія нешта яму "падкідваюць". Розных варыянтаў шмат.

**— Да чаго прывядуць меры бізуна?**

— Гэта ўсё несур'ёзна. Людзей трэба не прымушаць працаваць, а людзей трэба прыцягваць і стымуляваць. Так гэта працуе ва ўсім свеце. Хай нашы ўлады павучацца не ў Расіі, а там, дзе жывуць добра, — напрыклад, у Швейцарыі, якая мае 50—60 тысяч долараў ВУП на чалавека.

ПАЛІТКУХНЯ

## *Статкевіч згодны*

**Мікалай Статкевіч** адгукнуўся на прапанову Уладзіміра Някляева вылучыць палітвязня адзіным кандыдатам ад апазіцыі на выбарах прэзідэнта ў 2015 годзе. Пра гэта паведаміла жонка Статкевіча **Марына Адамовіч**.

*"Ён чытаў у "Народнай Волі" пра прапанову Някляева. Па-першае, падзякаваў Някляеву за падтрымку, а па-другое, даў згоду на вылучэнне, калі такое пагадненне будзе дасягнута", — сказала Марына Адамовіч.*

Нагадаем, што былы кандыдат у прэзідэнты Мікалай Статкевіч асуджаны на 6 гадоў зняволення нібыта за арганізацыю масавых беспарадкаў падчас мітынгу пратэсту 19 снежня 2010 года. Ужо амаль тры гады палітвязня трымаюць у крытай магілёўскай турме.

Прапанова вылучыць Статкевіча адзіным кандыдатам ад апазіцыі, каб прыцягнуць увагу і да праблемы палітвязняў, і да таго, што беларускія выбары не адпавядаюць цывілізаваным крытэрыям, — гэта толькі адзін с магчымых сцэнарыяў, якія зараз абмяркоўваецца ў дэмакратычным асяродку.

СЛЕДСТВА

## *Рэктара Інстытута культуры Беларусі будуць судзіць за хабар*

*Следчым камітэтам Беларусі прад'яўлена абвінавачанне рэктару Інстытута культуры Беларусі.*

Нагадаем, крымінальная справа была распачата на падставе матэрыялаў УБЭП ГУУС Мінгарвыканкама, супрацоўнікі якога затрымалі падазронага ў момант атрымання хабару ў памеры 2000 долараў. Гэтыя сродкі рэктар атрымаў за спрыяльнае рашэнне пытання аб прадастаўленні ў карыстанне нерухомасці ўстановы без дакументальнага афармлення.

Як паведаміла ўчора прэс-служба СК Беларусі, праведзеным расследаваннем устаноўлены чатыры факты атрымання хабару службовай асобай. Намер абвінавачанага ў кожным выпадку *"быў накіраваны на атрыманне матэрыяльных каштоўнасцяў выключна для сябе і ў сувязі з займаемай пасадай".*

Дзеянні службовай асобы кваліфікаваны па чч. 1,2 арт. 430 (атрыманне хабару) Крымінальнага кодэкса Беларусі.

На маёмасць абвінавачанага накладзены арышт, сам ён па-ранейшаму знаходзіцца пад вартай.

Дзяржаўная ўстанова адукацыі "Інстытут культуры Беларусі" створана ў 2010 годзе, гэта ўстанова дадатковай адукацыі дарослых, якая забяспечвае павышэнне кваліфікацыі і перападрыхтоўку кадраў у сферы культуры. Яна з'яўляецца правапераемнікам установы адукацыі "Беларускі дзяржаўны інстытут праблем культуры" (БелДІПК), які пачаў сваю дзейнасць у 1991 годзе.

Дарэчы, на сайце інстытута да гэтага часу рэктарам пазначаны **Канстанцін Рамышэўскі,** хоць ва ўстанове "Народнай Волі" прызналіся, што *"абавязкі рэктара выконвае ўжо іншы чалавек".*

*"У астатнім мы нічога не каментуем"*, — коратка дадалі там.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

БЛІЦ

# Гульня і какецтва?

*Кіраўнік Беларусі* ***Аляксандр ЛУКАШЭНКА*** *падчас прэс-канферэнцыі для расійскіх журналістаў сказаў: "Вось выбары... Уявіце, я бяру і сыходжу... Халодны душ для народа, і не толькі нашага. Пачаліся выбары — ты не выстаўляеш сваю кандыдатуру. А як патлумачыць гэта?"*

*"Народная Воля" вырашыла пацікавіцца: ці сапраўды няўдзел Аляксандра Лукашэнкі ў выбарах стаў бы для народа шокам?*

### Алесь КРАЎЦЭВІЧ, *гісторык:*

— Я бачу падабенства Лукашэнкі са знакамітым персанажам Гогаля Хлестаковым. Унікальна тое, што ён сам верыць у тое, пра што гаворыць. Я абсалютна перакананы, што гэты чалавек ніколі не адмовіцца ад улады па дзвюх прычынах. Першая — ён без яе не можа, другая — баіцца наступстваў. У першым выпадку гэта эйфарыя — усё добра, краіна квітнее і г.д. У другім выпадку, калі ён рэальна ацэньвае сітуацыю, то разумее, што можа быць ізаляваны і не толькі ад палітыкі, але і ад навакольнага асяроддзя на пэўны час. Не варта давяраць яго выказванням. Калі ён кажа, што не пойдзе на выбары, значыць, пойдзе, калі кажа, што не баіцца канкурэнтаў, значыць, баіцца.

### Уладзімір КНІГА, *старшыня Клічаўскага раённага Савета дэпутатаў:*

— Жыццё — гэта фізічная велічыня, і нічога надзвычайнага не здарыцца. Будзем працаваць, як працавалі.

### Леў МАРГОЛІН, *намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі:*

— Такі варыянт, каб Лукашэнка добраахвотна адмовіўся ад прэзідэнцкай пасады, немагчымы. Ёсць вызначаныя псіхатыпы чалавека, і псіхатып Лукашэнкі нам вядомы ўжо 20 гадоў. Толькі калі ён будзе хворы да такой ступені, што не зможа дзейнічаць, то, можа, тады ён прызначыць пераемніка. Але ніякіх справядлівых выбараў усё роўна не будзе. У такой сітуацыі наша партыя будзе рабіць тое, што і цяпер, — дабівацца справядлівых дэмакратычных выбараў. Свайго кандыдата мы, хутчэй за ўсё, будзем вылучаць незалежна ад таго, хто будзе ў якасці пераемніка Аляксандра Лукашэнкі. Ад прыхільнікаў перамен абавязкова павінен быць кандыдат, каб не даваць уладзе правесці выбары з прадказальным вынікам.

### Сяргей МАРЦАЛЕЎ, *паліттэхнолаг:*

— Гэта какецтва пажылога дыктатара. Тым больш што няма ніякіх перадумоў, якія прымусілі б яго пакінуць гэтае крэсла. Гэта спроба паказаць, што без яго тут не справяцца, што ён бацька нацыі і народ нібыта будзе ў разгубленасці.

### Аляксандр ЯРАШУК, *старшыня Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў:*

— У нас дзейнічае Выбарчы кодэкс, і ўсё будзе адбывацца ў адпаведнасці з ім. Ну не дык не. Калі б Лукашэнка раптам адмовіўся ад удзелу ў выбарах, кандыдатаў, хутчэй за ўсё, было б вельмі шмат, па прынцыпе "танцуюць усе". У чым небяспека разбурэння таталітарнай сістэмы ўлады? У тым, што наступае хаос. Можна прагназаваць, што калі такое адбудзецца (а некалі гэта здарыцца), то падзеі будуць развівацца менавіта такім чынам. Так што Лукашэнка сваім упартым жаданнем заставацца прэзідэнтам правакуе хаос у краіне. Дарэчы, я асабіста на выбары не пайшоў бы. Бо не хачу выконваць ролю папугая.

### Леанід ДЗЕЙКА, *дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання:*

— Мне падаецца, што такія выказванні перад расійскімі журналістамі былі своеасаблівым шантажом, закідам. Чакалася, што ўзнікнуць пытанні кшталту: "А куды ж вы пойдзеце? А на каго вы краіну пакінеце?"

Да таго ж кіраўнік Беларусі, адчуваючы слабіну Пуціна, зрабіў такі пасаж: "Дык давайце да нас, ці я стану кіраўніком Расіі..." Па крайняй меры ў мяне такое ўражанне, што апошняя прэс-канферэнцыя — гэта не было антырасійскае выступленне ці абарона незалежнасці Беларусі. Як па мне, дык хутчэй гэта была прапанова сваёй кандыдатуры на расійскі прастол.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ГУЧНЫЯ СПРАВЫ

## Следства прыпынена

*Учора, 20 кастрычніка, споўнілася дзесяць гадоў з дня жорсткага забойства беларускай журналісткі* ***Веранікі Чаркасавай****.*



Следчыя органы заяўляюць, што расследаванне справы па-ранейшаму прыпынена *"ў сувязі з невысвятленнем асобы, што падлягае прыцягненню да крымінальнай адказнасці"*. Пра гэта прэс-службе ГА БАЖ заявіў галоўны інспектар па інфармацыі і сувязі з грамадскасцю Следчага камітэта па Мінску **Аляксандр Герасімаў**. *"Версіі следства не абавязаны вам казаць. У расследаванні мы не адкрываем звестак пра следчых, якія вядуць справу"*, — дадаў спадар Герасімаў.

У перакладзе на звычайную мову гэта азначае: сказаць няма чаго, забойца не знойдзены і не высветлены.

Першапачаткова, пачынаючы з 2004 года, справу расследавала пракуратура Мінска. З моманту стварэння ў 2012 годзе Следчага камітэта яе перадалі гэтай установе. Вынікаў няма. А з моманту трагедыі ўжо прайшло дзесяць гадоў...

ГАЗЕТА — ЧЫТАЧЫ

## «Народная Воля» — з Вамі!

**Нам, народавольцам, хочацца заўжды заставацца са сваімі чытачамі. Таму для нас падпісная кампанія — хвалюючы час.**

**Разумеем, у кожнага чалавека свае прыхільнасці, свае погляды на тую ці іншую праблему. І газета не мае магчымасцяў адлюстроўваць жыццё праз прызму індывідуальных патрабаванняў. Для нас закон нумар адзін — аб'ектыўна, незаангажавана падаваць інфармацыю, расказваць пра падзеі, якія адбываюцца ў краіне і свеце. І, вядома ж, мы не выключаем плюралістычнага погляду на рэчаіснасць.**

**Таму не трэба крыўдаваць тым чытачам, меркаванні якіх не супадаюць з пазіцыяй аўтараў некаторых матэрыялаў. Уступайце ў дыскусію, даводзьце свае погляды да шырокай грамадскасці, пераконвайце апанентаў у сваёй праваце.**

**"Народная Воля" — газета народная і для народа.**

**Будзем заўжды разам!**

**Каму неабходна працягнуць падпіску на лістапад і снежань — не спазніцеся, калі ласка.**

**Адначасова паведамляем, што разгорнута падпіска на першую палову 2015 года.**

**Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!**

АСОБА

# Адзін на адзін з Богам, адзін на адзін з людзьмі...

*20 кастрычніка Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч адзначыў 25-годдзе біскупскай сакры.*

Папа Францішак даслаў Тадэвушу Кандрусевічу прывітальны ліст з гэтай нагоды.

*"Народжаны на зямлі Беларусі адразу пасля Другой сусветнай вайны, ты часта зазнаваў у сваім жыцці цяжары веруючых у Хрыста,* — гаворыцца ў лісце. — *Але каталіцкая вера была для цябе настолькі каштоўнай, што, пагардзіўшы небяспекай і спакусамі свету, ты з гатоўнасцю пайшоў за Богам і 31 мая 1981 года прыняў святарскую паслугу... Ты няспынна прыкладаў нястомныя намаганні для будавання даручаных табе супольнасцяў верных. Ты рупіўся аб перадачы катэхізіса, навучанні здароваму евангельскаму вучэнню, абуджэнні святарскага і манаскага паклікання і культываванні духоўнага жыцця ўсіх. Ты клапаціўся таксама пра чалавечае і сацыяльнае развіццё, а таксама пра паяднанне паміж людзьмі і з Богам. Больш за тое, на працягу шасці гадоў ты выконваў абавязак старшыні Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Расіі, а раней амаль год быў Апостальскім адміністратарам Пінскай дыяцэзіі.*

*Нямногае тое, што мы згадалі, і столькі іншага, што добра вядома Пану, спрыяе тваёй радасці і ўдзячнасці, асабліва ў гэты прыемны святочны дзень. Бог, які заўсёды пралівае на нас "нязмернае багацце сваёй ласкі праз дабрыню да нас у Хрысце Езусе" (Эф 2, 7), няхай дасць табе моц душы і цела, а таксама вечную радасць з плёну тваіх спраў у Нябесным Валадарстве. Зычым табе, шаноўны брат, каб, умацаваны ласкай Святога Духу і падтрыманы мацярынскім заступніцтвам Найсвяцейшай Дзевы Марыі, ты непахісна выконваў пастырскую справу. Просім, каб ты згадваў у сваёй пабожнай малітве пра наша служэнне Паўсюднаму Касцёлу. Нарэшце няхай апостальскае благаслаўленне, удзеленае табе з велізарнай любоўю, стане для цябе і ўсіх удзельнікаў твайго юбілейнага дня сведчаннем нашай зычлівасці і зарукай нябесных дароў.*

*З сядзібы Ватыкана,*
*8 кастрычніка 2014 года, на*
*другі год нашага Пантыфікату".*

Папа Ян Павел ІІ прызначыў ксяндза Тадэвуша Кандрусевіча тытулярным біскупам Гіпона-Дзарыцкім і Апостальскім адміністратарам Мінскай дыяцэзіі для католікаў у Беларусі 25 ліпеня 1989 года, а 20 кастрычніка ў базіліцы Святога Пятра ў Рыме ўдзяліў яму біскупскае пасвячэнне.

Падчас біскупскага служэння ў Беларусі сённяшні мітрапаліт заснаваў Вышэйшую духоўную семінарыю ў Гродне, спрыяў вяртанню і адкрыццю каля 100 раней зачыненых касцёлаў, выданню "Парадку Імшы" і "Катэхізісу" на беларускай мове, распачаўшы такім чынам справу адраджэння Касцёла ў Беларусі.

Паколькі Мітрапаліт браў удзел у сёлетняй надзвычайнай сесіі Сінода біскупаў у Ватыкане, святкаванне 25-годдзя яго біскупскага пасвячэння пройдзе 28 кастрычніка ў касцёле Імя Найсвяцейшай Панны Марыі. Мітрапаліт сардэчна запрашае ўсіх на імшу, а таксама просіць аб малітве.



ЛЁС ЧАЛАВЕКА

*Наталля ІЛЬІНІЧ:*

# «І ўсё ж я спадзяюся вярнуцца ў школу...»

***У мінулых нумарах "Народнай Волі" расказвалася пра скандальнае звальненне з сярэдняй школы №10 горада Светлагорска настаўніцы гісторыі Алены Маслюковай. І ўзгадвалася пра яшчэ адзін аналагічны выпадак. У 2011 годзе, пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года, з Талькаўскай СШ Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці была звольнена настаўніца гісторыі Наталля Ільініч. З ёю, як і з Аленай Маслюковай, дырэктар школы не працягнула працоўны кантракт. Афіцыйна Наталлю звольнілі з прычыны яе прафесійных хібаў (коскі ў журнале не так расставіла, адзнакі за чвэрць выставіла са спазненнем і г.д.), але па сутнасці — за грамадзянскую пазіцыю. Ільініч — сябра Партыі БНФ, была на Плошчы ў снежні 2010 года. Пра гэтае звальненне, як і пра далейшы лёс Наталлі Ільініч, "Народная Воля" шмат пісала. Праз газету мы нават ладзілі акцыю салідарнасці з Наталляй, калі ёй літаральна не было за што жыць.***

***І вось зараз, як толькі газета ўзгадала пра Наталлю Ільініч, адразу пайшлі тэлефанаванні ад нашых чытачоў: дзе Ільініч зараз? Ці вярнулася ў школу, у любімую прафесію?***



Мы звязаліся з Наталляй Валянцінаўнай. І, як нашы чытачы, дзесьці ў глыбіні душы спадзяваліся пачуць, што яна працуе ў школе, што ўсё ў яе добра. На жаль...

— Жыццё павінна вучыць, — заўважае Наталля. — Здавалася, не засталося той школы ў Пухавіцкім раёне, Асіповічах, Мінску, куды б я ні звярталася, калі чула, што там патрэбны настаўнік гісторыі альбо пачатковых класаў. Але ўсе мае намаганні былі дарэмныя. Чула адзін і той жа адказ: "Прабачце, мы вас прыняць на працу не можам". І ўсё ж я спадзяюся вярнуцца ў школу. Вось і сёлета, напярэдадні новага навучальнага года, паехала ў раённы аддзел адукацыі з пытаннем, ці ёсць вакансіі гісторыка альбо настаўніка пачатковых класаў. Кіраўніцы не было, сакратарка прапанавала звярнуцца ў аддзел кадраў, дзе мне і далі спіс вакансій. І ў адзін момант я нават думала, што гэтым разам мяне возьмуць, бар'ер будзе зламаны.

Была вакансія гісторыка і сацыяльнага педагога ў вёсцы Светлы Бор. Ад Талькі гэта трохі далекавата, але я гатова была ездзіць. Тым больш што завучам там працуе знаёмая калега, мы разам ездзілі з ёй вучыцца на курсы музейшчыкаў. Я з ёю стэлефанавалася, яна запэўніла, што гісторык школе патрэбны. І я нават пачала ўжо рыхтавацца да ўрокаў. Але напярэдадні 1 верасня яна мне тэлефануе і літаральна плача: "Наталля Валянцінаўна, прабач! Дырэктар, вярнуўшыся з раённага аддзела адукацыі, змяніла сваё рашэнне".

Было месца настаўніцы пачатковых класаў у суседняй вёсцы Суцін. Там дзве пенсіянеркі працуюць, адной ужо за 70, дырэктар таксама гатова была мяне ўзяць. Але... Патэлефанавала праз некалькі дзён і кажа: "Параілася з начальнікам РАА: яна супраць, і я супраць. Вы не справіцеся, вы ўжо тры гады не працуеце ў школе, адсталі ад сучасных тэндэнцый". Калі шчыра, гэта выклікала смех. У мяне больш за 20 гадоў стажу, чырвоны дыплом гістфака БДУ, я здольны да навучання чалавек, усе праграмы пачатковай школы асвоіла б на раз-два.

Камусьці гэта можа паказацца неверагодным, хтосьці можа не паверыць: ну хто такая гэта Ільініч, што яе прыціскаюць ужо столькі часу, не пускаюць у школу пры дэфіцыце кадраў? Але вось такая яна, наша рэчаіснасць: сістэма па выштурхоўванні няўгодных працуе ў краіне без збою.

**— А як выжываеце?**

— Патроху адтуль-адсюль — і нешта назбіраецца. Займаюся рэпетытарствам, ёсць вучні. Хацелася б болей, канешне, але праблема ў тым, што гісторыю Беларусі па-руску я выкладаць не магу. Грамадазнаўства выкладаць па-руску навучылася, а вось гісторыю Беларусі — не. А сёння наша школа літаральна ўся рускамоўная... Праз знаёмых мяне вучні самі знаходзяць. У мінулым годзе займалася гісторыяй Беларусі з дзяўчынкай, якая паступіла на "бюджэт" філфака БДУ.

ГА "Таварыства беларускай школы" запрасіла мяне ў свой праект "Дыстанцыйнае навучанне", вучым настаўнікаў перадавой сучаснай методыцы, якая распаўсюджана ва ўсім свеце. Грошы за праект атрымліваю сімвалічныя, але і за гэта дзякуй. Тым больш што праца цікавая, карысная для мяне асабіста.

Здала экзамен на экскурсавода ў Нацыянальным агенцтве па турызме. Летам падпрацоўвала ў турфірмах, праводзіла экскурсіі па Мінску, па маршруце Мір—Нясвіж. Але гэта праца сезонная і залежыць ад таго, ці ёсць групы.

Ну і ўжо не аднойчы казала, што корміць мяне гаспадарка, карова, якая дае малако, тварог, смятану, масла, сыр...

**— А ў талькаўскай школе змянілася што-небудзь? Помню, яе хацелі зачыніць?**

— Школа стала базавай. Настаўнікі скардзяцца, што паменела гадзін, зменшыліся заробкі... На маім месцы ўжо трэці чалавек. Калі ў 2011 годзе мяне звольнілі пасярод навучальнага года, гісторыю выкладаць нагогул не было каму. Знайшлі дзяўчыну ў дзіцячым садку, у яе была адукацыя гісторыка. Два гады яна адпрацавала і пайшла на павышэнне: у ідэалагічны аддзел райвыканкама. Аціанілі, напэўна...

Ужо на яе месца прыйшла мая вучаніца. Добрая дзяўчына, здольная, але ў яе адукацыя па спецыяльнасці "сусветная мастацкая культура і харэаграфія". Год яна адпрацавала, сышла ў раённы аддзел краязнаўства і турызму.

На гэты час гісторыю выкладае другая мая вучаніца. Калі мяне звольнілі, яна адмовілася ісці на маё месца, а цяпер, відаць, калі гадзін паменела, пагадзілася, трэба ж выжываць...

**— А дырэктар Наталля Меркуль, якая з вамі не працягнула кантракт, новую пасаду не атрымала?**

— Думаю, што пасада дырэктара для яе — гэта ўжо кар'ерны ўзлёт.

**— Наталля, а ўвогуле настрой які? Раней вы казалі, што людская салідарнасць дазволіла вам перажыць тую абразлівую сітуацыю. Але ж час ідзе, у людзей свае клопаты...**

— Іншым разам думаю, што ўся гэтая сітуацыя была мне паслана невыпадкова. Яна мне падарыла знаёмства з неймавернай колькасцю неабыякавых, шчырых людзей. З некаторымі чытачамі "Народнай Волі" я пасябравала, яны прыязджаюць да мяне ў госці, сустракаемся на розных імпрэзах. Калі б не выкінулі са школы, у маім жыцці, напэўна, не з'явілася б Святлана Алексіевіч. Гэта сапраўднае шчасце — ведаць яе асабіста, мець магчымасць звяртацца да яе за парадай, за яе меркаваннем. Кожны год на Каляды яна дасылае мне грашовы перавод — падарунак на свята. І яшчэ яна сказала мне: "Наталля, калі будзе надзвычайная сітуацыя, зусім цяжка, ведай, што ты можаш мне пазваніць — і я дапамагу". Для мяне гэта вельмі важна: ведаць, што чалавек такога сусветнага прызнання адгукнуўся на праблемы звычайнай вясковай настаўніцы!

Партыя БНФ мяне падтрымлівае. Я ў Сойме партыі. На чарговым з'ездзе, дарэчы, вырашылі, што будзем афіцыйна звяртацца да міністра адукацыі Сяргея Маскевіча наконт сітуацыі вакол Алены Маслюковай. Маё прозвішча, спадзяюся, у зварот таксама ўключаць... Але ці гэта дапаможа?! Мой досвед, на жаль, падказвае, што ўсё гэта бессэнсоўна. Няма ў нас чыноўнікаў, якія адважыліся б прыняць самастойнае рашэнне, узяць на сябе адказнасць...

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ПРЭЦЭДЭНТ

## Не паклёп!

*Камітэт па правах чалавека ААН разгледзеў справу жыхара Брэста Паўла Казлова і прыйшоў да высновы, што беларускі суд не ведае, як выглядае паклёп.*

Сутнасць справы ў тым, што жыхар Брэста Павел Казлоў пасля выхаду на пенсію з'яўляўся судовым экспертам па аўтамабілях і іншых транспартных сродках. На працягу 2004—2005 гадоў ён звяртаўся з лістамі ў розныя дзяржаўныя ўстановы з крытыкай на адрас адказных асоб дзяржаўнага акцыянернага страхавога таварыства "Прамтрансінвест" за адсутнасць кантролю, нямэтавае выкарыстанне страхавых выплат сябраў гэтага таварыства, магчымую карупцыю і ўшчамленне правоў асоб, якія трапілі ў дарожна-транспартныя здарэнні. Пасля аднаго з такіх лістоў, накіраваных на імя міністра фінансаў Беларусі, намеснік дырэктара "Прамтрансінвеста" абвінаваціла Казлова ў паклёпе і звярнулася ў суд Ленінскага раёна Брэста. Справа ў тым, што гэтую адказную асобу Казлоў назваў "пустагаловай".

У выніку суд пакараў пенсіянера штрафам памерам 24 тысячы беларускіх рублёў (на той момант гэта адпавядала 12 доларам ЗША).

Павел Казлоў не прызнаў сябе вінаватым і не пагадзіўся з рашэннем раённага суда, пасля чаго паспрабаваў абскардзіць яго ў іншых судовых інстанцыях (у тым ліку — у Вярхоўным судзе), але безвынікова. Тады жыхар Брэста палічыў, што вычарпаў усе магчымасці прававой абароны ў самой Беларусі, і звярнуўся ў Камітэт ААН. У сваёй скарзе Казлоў паведаміў, што выкарыстаныя ў лісце да міністра фінансаў выказванні, якія суды палічылі паклёпам, на самай справе з'яўляюцца выказваннем асабістага меркавання і крытыкай на адрас адказнай асобы дзяржаўнай установы.

Свае тлумачэнні па гэтай справе ў Камітэт ААН прадставіў і афіцыйны бок. І што вы думаеце? Камітэт па правах чалавека ААН прыняў рашэнне на карысць Казлова і ўказаў Беларусі, што аўтар скаргі мае права на свае ацэнкі любой адказнай асобы. Больш за тое, Беларусі загадана прыняць меры для прадухілення аналагічных парушэнняў у будучыні. Так што пішыце скаргі і не бойцеся даваць ацэнку чыноўнікам — закон на вашым баку.

ДЫПКУР'ЕР

## З двума пашпартамі

*Цяпер у Шэнгенскую зону можна ездзіць з двума пашпартамі.*

Многія сутыкаліся з такой сітуацыяй: шэнгенская віза стаіць у пашпарце, у якім скончыліся лісты. Што рабіць? Мяняць пашпарт? Дык у ім візы ўжо не будзе...

Раней вандроўнікі ў такіх выпадках ездзілі з двума пашпартамі на руках і рызыкавалі нікуды не трапіць. Памежныя органы некаторых краін ЕС, у тым ліку Літвы, на падставе свайго нацыянальнага заканадаўства часам адмаўлялі ва ўездзе. Справа дайшла да Еўрапейскага суда.

І вось суд пастанавіў: у падобных выпадках краіны Шэнгенскага пагаднення не маюць права забараняць уезд на сваю тэрыторыю.

Два пашпарты — стары, цалкам заштампаваны з візай, і новы, чысты і без візы, — маюць многія беларусы. Асабліва гэта актуальна для жыхароў памежжа, якія часта ездзяць у Польшчу і Літву. Так што для многіх гэта добрая навіна.

Аналітык Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў (зарэгістраваны ў Літве) **Андрэй Елісееў** на сабе выпрабаваў, ці дайшло рашэнне суда да памежнікаў розных краін.

Дайшло! Андрэй Елісееў з поспехам перасек расійска-эстонскую мяжу, маючы на руках два пашпарты. Праўда, прызнаецца, што на ўсялякі выпадак раздрукаваў на эстонскай мове і вёз з сабой вердыкт Суда ЕС. Аднак гэта не спатрэбілася...

Сам вердыкт стаў вынікам судовых разглядаў у Латвіі, якія пачаліся яшчэ ў 2010 годзе. Тады з Масквы ў Рыгу самалётам авіякампаніі AirBaltic прыляцеў грамадзянін Індыі, у якога быў сапраўдны пашпарт без візы і несапраўдны — з доўгатэрміновай італьянскай візай. Латвійскія памежнікі адмовілі індусу ва ўездзе на той падставе, што ён нібыта не мае сапраўднай візы. Ды яшчэ і наклалі штраф у памеры 2000 латаў (каля 4000 долараў) на авіякампанію за транспарціроўку ў Латвію чалавека без праязнога дакумента, неабходнага для перасячэння мяжы. У выніку рэгіянальны адміністрацыйны суд, разглядаючы апеляцыю AirBaltic, і звярнуўся да Суда ЕС па інтэрпрэтацыю заканадаўства. Разгляд справы індуса і балтыйскай авіякампаніі нечакана завяршыўся і на карысць многім беларусам.

МОДЕРНИЗАЦИЯ

# Как искоренить коррупцию в поликлиниках и больницах?

*Почему белорусские врачи берут взятки и кого чаще всего ловят за руку правоохранители?*

Сфера здравоохранения Беларуси считается одной из самых коррумпированных. По данным различных опросов, именно поборами в поликлиниках и больницах белорусы озабочены больше всего.

В 2011 году социологи из Информационно-аналитического центра при Администрации президента РБ получили такие результаты.




## Государство экономит, пациенты компенсируют

Врач из Слонима **Иван Шега** считает, что главная причина "взяточничества в белых халатах" кроется в низких зарплатах медиков.

Сейчас среднемесячная зарплата в здравоохранении составляет 4 млн 646,1 тыс. рублей. Средняя заработная плата врачей в августе была 7 млн 215,1 тыс., среднего медицинского персонала — 4 млн 475,6 тыс. рублей.

Власти, судя по всему, существующая система мздоимства тоже устраивает.

Экономист **Леонид Заико** отмечает, что взятки перераспределяют средства в здравоохранении. По его словам, врачей, которым хронически недоплачивает за тяжелую работу государство, материально поддерживают пациенты.

— Вот и получается, что хороших врачей кормит народ, а государство может ограничиться небольшим повышением зарплат, которое качество жизни медиков не улучшает, — подчеркивает экономист.

На самом деле найти средства на повышение зарплаты врачам не так уж и сложно, считает координатор программ ВОЗ в Беларуси **Валентин Русович**. На экспертном "круглом столе" в рамках проекта "Реформ" он отметил, что на здравоохранение у нас тратится 3 миллиарда долларов в год, а чтобы поднять зарплату 5 тысячам врачей общего звена, нужно изыскать из этой суммы всего 1 процент.

— В любой системе есть 20% нерационального расходования средств. Изыскать средства на повышение зарплат можно, начав с экономии электроэнергии и прекращения нерациональных выплат некоторым специалистам, — уверен эксперт.

## Где проходит грань между благодарностью и взяткой?

По словам Ивана Шеги, чаще и больше пациенты дают взятки врачам в стационарах.

— Приезжает из региона человек, которого направили на обследование или операцию, и сталкивается с тем, что надо заплатить анестезиологу, хирургу. И люди платят. На строптивых пациентов всегда есть возможность воздействовать. Например, выискать противопоказание к плановой операции и выписать через пару дней. Хотя на районном уровне прямых вымогательств нет, — отмечает эксперт.

Он также подчеркивает, что почти нет коррупции в поликлиниках. Бывают случаи подкупа за выписку больничного. С получением незаконного материального вознаграждения за выдачу фиктивных листков нетрудоспособности связана значительная часть коррупционных преступлений в медицине.

Если бы по примеру европейских стран первые три дня болезни по закону оплачивал наниматель и пациенту не нужно было обращаться за бюллетенем к врачу, это разгрузило бы врачей, уменьшило бы очереди в поликлиниках на 30% и поспособствовало бы искоренению коррупции из-за больничных листков, уверен Валентин Русович.

— В Европе же в первые три дня болезни к врачу никто не ходит, так как их по закону оплачивает наниматель. Работник просто предупреждает его о болезни, а работодатель может прислать представителя профсоюза для контроля, так ли это. По закону там человек обязан обратиться к врачу лишь на четвертый день, — поясняет эксперт. — В Европе такого типа коррупцию вы не увидите.

Суммы взяток, которые фигурируют в делах о фиктивных листках нетрудоспособности, небольшие: порядка 20 долларов. Очевидно, что не такие факты являются бичом белорусской медицины.

Гораздо серьезнее и болезненнее проблема поборов с пациентов и злоупотреблений наверху. Борцы с коррупцией нечасто выводят на чистую воду руководителей здравоохранения, получающих огромные "откаты".

Иван Шега обращает внимание на преступления в медицине, которые власти называют коррупционными.

— Задерживают врачей обычно за мелочь. Нельзя называть взяткой благодарность врачу, когда люди приходят с конфетами и букетами без принуждения. Я не усматриваю в этом коррупции, иногда отказать человеку принять благодарность — значит просто обидеть его, — считает врач.

Директор Центра поддержки онкопациентов "Во имя жизни" **Ирина Жихарь** считает, что выписка больничного за 30 долларов это не коррупция, а скорее административное правонарушение.

Она также подчеркивает, что необходимо различать благодарность человека, который ценит работу врача, и коррупцию.

— Это разные вещи, когда ты приносишь конфеты и конверт с деньгами, опасаясь, что тебе не окажут качественную медицинскую помощь, — отмечает эксперт. — Мне было 27 лет, когда делали первую операцию. По отделению ходили слухи, что, если не дать анестезиологу, будет недостаточный наркоз. С перепугу я понесла конверт, анестезиолог взял. В моей жизни это был единственный такой случай. Теперь, если мне кажется, что со мной не так обращаются, как положено, пытаясь что-то получить, я не разговариваю с таким врачом.

По словам Ирины Жихарь, в настоящее время в Беларуси выработаны механизмы воздействия на врача, у пациента есть законные способы отстоять свои права: жалобы, обращения к вышестоящему начальству.

Есть приказ Министерства здравоохранения "Об утверждении Плана мероприятий Министерства здравоохранения по профилактике коррупционных правонарушений и реализации Программы по борьбе с преступностью и коррупцией на 2013—2015 годы". Именно в рамках его исполнения в каждой поликлинике и отделении больницы на доске информации висит номер телефона, на который можно звонить, чтобы сообщить о случаях взяток. Есть этот номер и на сайтах учреждений здравоохранения.

Ирина Жихарь полагает, что врачи в поликлиниках, которые попадаются на мелких взятках, являются заложниками системы.

— Медицинская сфера, особенно в первичном звене, существует в атмосфере жесткого кадрового дефицита. Это означает напряжение медиков и вызывает неудовлетворенность пациентов. Когда кого-то из врачей ловят за руку за выписку больничного, государство так демонстрирует, что осознает проблемы пациентов, пытается их решить, — считает **Ирина Жихарь.**

## Конкуренция — враг коррупции

Иван Шега отмечает, что коррупцию полностью искоренить невозможно.

— Если врачу будут платить нормальную зарплату, он не станет брать взятки, рисковать хорошей работой и авторитетом, — считает эксперт.

Кроме того, по его словам, из-за непрозрачности налоговой политики государства белорусы не понимают, сколько средств они отчисляют на здравоохранение.

— Платные услуги в системе государственного здравоохранения — это фактически коррупция государства. Получается, что доктору нельзя, а государству можно брать деньги за одни и те же услуги в государственных клиниках, — считает врач.

Иван Шега отмечает: развитие первичного звена медицины будет способствовать профилактике коррупции.

— Если в поликлинике можно будет получить качественную медицинскую помощь, люди не будут искать врача и платить за обследования, — уверен эксперт.

**Виктор ЛИСТОПАДОВ.**




ОФИЦИАЛЬНО

# ГТК ужесточил нормы ввоза и вывоза товаров для личного пользования

***Государственный таможенный комитет утвердил перечень и количество товаров для личного пользования, которые можно ввозить жителям приграничья через пункты упрощенного пропуска по возвращении на родину в "сопровождаемом багаже".***

***Документ вступает в силу с 25 октября текущего года.***

Перечень публикуется полностью:

1. Одежда и обувь, имеющие видимые признаки носки, стирки, а также предметы личной гигиены при ввозе в Республику Беларусь через пункты упрощенного пропуска через Государственную границу Республики Беларусь (далее — при ввозе) и вывозе из Республики Беларусь через пункты упрощенного пропуска через Государственную границу Республики Беларусь (далее — при вывозе) — по 1 единице не более 5 наименований.

2. Продукты питания растительного происхождения, за исключением указанных в пункте 3 настоящего перечня, явно предназначенные для личного потребления, при ввозе и при вывозе — до 5 кг в совокупности, но не более 1 кг 1 наименования, при этом чая — до 0,25 кг, кофе — до 0,25 кг, пряностей — до 0,3 кг.

3. Дикорастущие грибы, ягоды при ввозе и при вывозе — до 5 кг.

4. Алкогольные напитки, за исключением пива:

при ввозе — в 1 емкости объемом не более 0,75 л в расчете на одно физическое лицо, достигшее 18-летнего возраста;

при вывозе — не более 1 л в расчете на одно физическое лицо, достигшее 18-летнего возраста.

5. Пиво:

при ввозе — не более 0,5 л в расчете на одно физическое лицо, достигшее 18-летнего возраста;

при вывозе — не более 2 л в расчете на одно физическое лицо, достигшее 18-летнего возраста.

6. Сигареты при ввозе и при вывозе — не более 40 штук в расчете на одно физическое лицо, достигшее 18-летнего возраста.

Табак или иные табачные изделия при ввозе и при вывозе — не более 40 г в расчете на 1 физическое лицо, достигшее 18-летнего возраста.

7. Товары, предназначенные для религиозных обрядов, при ввозе и при вывозе — по 1 единице каждого наименования.

8. Лопаты, грабли, косы, вилы, тяпки, мотыги, корзины, ведра при ввозе и при вывозе — по 1 единице каждого наименования.

9. Медицинская аптечка, огнетушитель, знак аварийной остановки, домкрат, запасное колесо, два противооткатных упора, буксировочный трос, насос ручной или ножной пневматический автомобильный либо электрический (компрессор) для накачки автомобильных шин, работающий от бортовой сети автомобиля, ручной инструмент для снятия и установки колес, плавкие предохранители и пять ламп внешних световых приборов, а также аудиовидеоаппаратура, установленная заводом-изготовителем транспортного средства либо уполномоченной на осуществление такой деятельности организацией, при ввозе и при вывозе в легковых автомобилях и прочих моторных транспортных средствах, предназначенных главным образом для перевозки людей, классифицируемых в товарной позиции 8703 единой Товарной номенклатуры внешнеэкономической деятельности Таможенного союза, за исключением квадроциклов и снегоходов, следующими на них физическими лицами.

10. Имеющие видимые признаки эксплуатации портативные компьютеры (ноутбуки), фото-, видеокамеры, портативные радиоприемники, GPS-навигаторы, а также необходимые для их использования принадлежности при ввозе и при вывозе — по 1 единице каждого наименования.

11. Наличные денежные средства, денежные инструменты при ввозе и при вывозе — на сумму, не требующую таможенного декларирования в письменной форме в соответствии с таможенным законодательством Таможенного союза.

12. Имеющие видимые признаки эксплуатации велосипеды при следовании на нем физического лица при ввозе и при вывозе — по 1 единице.

13. Имеющие видимые признаки эксплуатации детские коляски при следовании в ней ребенка при ввозе и при вывозе — по 1 единице.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
21 КАСТРЫЧНІКА 2014 г.

**АД РЭДАКЦЫІ**

*Шкада, але з-за таго, што “Народная Воля” выходзіць не кожны дзень і не мае магчымасці “пераварыць” усю чытацкую пошту, здараюцца накладкі, калі актуальныя, надзвычай глыбокія разважанні аўтараў месяцамі чакаюць свайго з’яўлення на старонках газеты. Вось і артыкул Міколы Ярмашэвіча з Брэста заляжаўся ў рэдакцыйным партфелі. Але мы лічым, што ён мае права на публікацыю нават са спазненнем. Бо закранае самую балючую для нас, беларусаў, праблему — хто мы, як нам далей жыць, якім чынам адраджаць сваю самабытнасць, сваю годнасць. Той дыскусійны ракурс, які абраў спадар Ярмашэвіч, лішні раз падкрэслівае плюралізм “Народнай Волі” — яе нязменны курс на свабоду слова.*

**ДЫСКУСІЯ**

# Аб дактрыне Брэжнева, гарадскім мысленні Тараса і ўратаванні беларусаў

Сённяшняя моладзь не ведае, а састарэлае ўжо пакаленне былых “будаўнікоў камунізму”, напэўна, яшчэ ўтрымлівае ў сваёй галаве памяць аб тым, як палітычныя селекцыянеры Савецкага Саюза хацелі вывесці новую, камуністычную, “чараду” людзей. Генсек Леанід Брэжнеў, выступаючы са справаздачай на партыйным з’ездзе ў сярэдзіне 1970-х гадоў мінулага стагоддзя, аб’явіў пад бурныя апладысменты дэлегатаў радасную вестку: у Краіне Саветаў завершана будаўніцтва “развітага, поўнага, спелага сацыялізму — першай фазы камунізму”, і ў адпаведнасці з карэннымі зменамі ў эканоміцы адбываюцца радыкальныя прагрэсіўныя метамарфозы ў вырашэнні нацыянальнага пытання — фарміруецца “новая гістарычная супольнасць — савецкі народ”, нейкі якасна новы. Наднацыянальны гібрыд зямной цывілізацыі, ачышчаны ад класавых, нацыянальна-этнічных, ідэйна-рэлігійных і іншых мястэчковых шкодных перажыткаў і забабонаў.

Брэжнеўская “наватарская” думка аб “савецкім народзе” (безнацыянальным) адпавядала пастулату К.Маркса, што “ў пралетарыяў няма Радзімы” і што “сапраўдная гісторыя чалавецтва пачнецца толькі з камунізму”, а ўсё, што было раней, — змрочны летапіс зямлян. Падрабязны і зразумелы простаму чалавеку змест формулы “савецкі народ” спекулятыўна замоўчваўся, не расшыфроўваўся ні ў дакладзе, ні ў прамовах дэлегатаў у час з’ездаўскай дыскусіі, але ў шматлікіх публікацыях прэсы, якая асвятляла і каменціравала “гістарычныя” рашэнні з’езда, уважлівы чытач нават “сярэдняй рукі” мог уцяміць-здагадацца, што над ускраіннымі нацыямі па ўсім перыметры заходняй, паўднёвай і ўсходняй граніц Савецкага Саюза занесены знішчальны меч, асвячоны марксісцка-ленінскімі ідэямі гістарычнага матэрыялізму — “вяршыняй” вучэння аб чалавечым грамадстве; што “новая гістарычная супольнасць” будзе грунтавацца і фарміравацца, развівацца і квітнець на здабытках “старэйшага брата”; што фундаментам і каркасам гэтай безнацыянальнай супольнасці стане руская нацыя, яе “магутная мова”, гераічна-волатаўская гісторыя, універсальна-дасканалая ментальнасць, “душа нараспашку” і ўсе іншыя лепшыя якасці сучаснага чалавека. Астатнія народы савецкага “ноевага каўчэга” павінны спыніць сваё адметнае этнічнае існаванне, сысці з гістарычнай арэны.

Агучаныя і прынятыя на з’ездзе палітычная, сацыяльная і ідэалагічная дырэктывы для савецкай грамадскасці і знешнепалітычныя ўстаноўкі па абмежаванні суверэнітэту краін сацыялістычнага лагера атрымалі на Захадзе мянушку “дактрына Брэжнева”. Адрэагавала і савецкая нацыянальная ўскраіна. Кіргізскі пісьменнік Чынгіз Айтматаў сачыніў і запусціў ва ўжытак савецкай грамадскасці слова “манкурт” — чалавек без роду і племені, які не ведае свайго радаводу і пазбаўлены гістарычнай і нацыянальнаай памяці і гэтым нават ганарыцца, выхваляецца: я інтэрнацыяналіст, новы савецкі чалавек, а не вузкалобы нацыяналіст.

Дактрынёрскія разважанні “вернага ленінца” Леаніда Брэжнева і неалагізм “нацмена” Айтматава рэфлексіўна абудзіліся ў маёй галаве, калі я прачытаў у плюралістычнай “Народнай Волі” інтэрв’ю з “вядомым гісторыкам і пісьменнікам, грамадскім дзеячам” Анатолем Тарасам пад шакіруючай назвай “Были бы крестьянские кости, а интеллигентское мясо нарастет”. Адкінуў прэч усе свае руцінныя справы і, не пераводзячы дух, уважліва прачытаў гэтае інтэрв’ю ад першага слова да апошняй кропкі, потым яшчэ раз. Ба! Дык гэта не “апошні з магікан”, не музейны манкурт, а сённяшні — бадзёры, энергічны, пладавіты, мэтанакіраваны. Ён не толькі сам сачыняе-плодзіць свае думкі-кнігі, ён яшчэ “мадэратар” — арганізуе і праводзіць пад сваім ідэйным кантролем канферэнцыі, вучыць, накіроўвае і выхоўвае сваім друкаваным і агучаным словам другіх.

Вось і перад тым, як Алена Малочка ўзяла інтэрв’ю, Тарас “прамадэрыраваў” навукова-практычную канферэнцыю пад кручкатворнай назвай “Трансфармацыі ментальнасці беларусаў на пачатку XXI стагоддзя”.

Пра што там ішла гаворка, пра якія “трансфармацыі ментальнасці” (светапогляду, свядомасці) сённяшніх беларусаў гаварылі ўдзельнікі канферэнцыі і ён сам — пра прагрэсіўныя, станоўчыя, адраджэнскія?

Можа, Тараса хоць зрэдку агортвае туга-хандра ад думкі, што беларусы праз 700 гадоў свайго этнічнага існавання ўшчыльную падышлі да фатальнай мяжы? Яшчэ адзін крок — і іх напаткае пагібельны лёс індзейскага племені магікан: яны бясследна знікнуць са сваёй спрадвечнай зямлі ў выніку расійскай каланізацыі, і славянская сям’я народаў скароціцца?

Можа, Тарас дэпрэсуе, дрэнна спіць і страчвае апетыт ад думкі, што наша нацыянальная асвета жорстка русіфікавана і што ў 350-тысячным Магілёве толькі адна дзяўчынка вучыцца па-беларуску, на мове сваіх продкаў, і што ў іншых гарадах, нават у стольным Мінску, той жа моўны заняпад роднай мовы?

Можа, Тарас журыцца і засмучаецца ад таго, што знешняе аблічча нашай зямлі — рэклама, назвы вуліц і плошчаў, дзяржаўных, асветных, навуковых і іншых устаноў, прадпрыемстваў — скрозь рускамоўнае, а калі дзе і сустрэнеш надпіс на роднай мове, дык з памылкамі? Што па тэлебачанні і радыё не пачуеш беларускага слова, і друкаваныя выданні моцна русіфікаваны? Што прэзідэнт, яго вертыкаль і залежныя, падкантрольныя прэзідэнту заканадаўчая і іншых галіны ўлады свядома-маўкліва ігнаруюць родную дзяржаўную мову ў сваёй паўсядзённай практыцы?

Вышэйназваныя праблемы зусім не цікавяць Тараса — ён пра іх як быццам не ведае і ведаць не хоча. Калі зыходзіць са зместу таго інтэрв’ю, якое я ўзгадаў, яго літары і духу, то на канферэнцыі, якая была пазначана як “навукова-практычная”, нічога не было нацыянальна-адраджэнскага, навуковага. Як не было навуковасці і практычных рэкамендацый для ўлады, яе ідэалагічна-асветных устаноў па карэкціроўцы і ўзмацненні патрыятычнага выхавання беларусаў на прынцыпах нашай нацыянальнай ідэі. Там, адчуваецца, была нейкая саветызавана-манкуртызаваная эклектыка па апраўданні страты беларусамі сваёй роднай ментальнасці праз русіфікацыю і прапаганду шавінізму-інтэрнацыяналізму. Прачытаўшы гэтае інтэрв’ю з дамарослай філасофіяй, сучасны дрыгавіч-крывіч-радзіміч ні на адзін градус не павысіць этнічную свядомасць, патрыятычную энергію і ў ім не абудзіцца гістарычная памяць. Наадварот — дэнацыяналізаваны беларус яшчэ глыбей, мацней і даўжэй будзе “спаць у шапку” салодка-летаргічным сном бяспамяцтва.

Вызначальным пунктам ментальнасці самога Тараса, яго “гарадскога мыслення” з’яўляецца падзел сённяшніх беларусаў на патрыярхальна-кансерватыўнае сялянства і прагрэсіўна-авангардных гараджан. Сялянства ў яго транскрыпцыі — адсталая, горшая частка нашага народа, носьбіт архаічных поглядаў і звычак.

Тарас: “Когда говорят о негативных чертах белорусов, хочу подчеркнуть, — это черты не нации, а класса. Класса крестьян. У крестьян социальный, материальный интерес преобладает над духовно-культурным. Есть, конечно, традиционная культура, а не творчество. Крестьяне скупы — все ж своим трудом добиваются они всего. Завистливы — иди поработай, как я”.

І далей, праз абзац: “Я так скажу: были бы крестьянские кости, а интеллигентское мясо нарастет, дайте время”.

Што і казаць, вобразная фармулёўка. Але любая вобразнасць не павінна быць “крывабокай”, павінна не пярэчыць сэнсу, а крышталізаваць яго. З апошнім у Анатоля Тараса, мне здаецца, не ладзіцца.

Здзіўляе яго падзел беларусаў на “косць” (сяляне) і “мяса” (інтэлігенцыя, а не ўсе гараджане). Такая аўтарская інтэрпрэтацыя не што іншае, як інтэлігенцка-ўрбанізаваны снабізм. Сам Анатоль Тарас — мінчанін у трэцім, ад сілы ў чацвёртым пакаленні. Яго дзяды-бацькі былі сяляне, паходзілі з вёскі і потым пераехалі ў Мінск. Ён ужо наўрад ці ведае падрабязнасці свайго радавога дрэва, а калі штосьці і ведае-памятае, то ўжо з фанабэрыяй глядзіць на свае далёкія сялянскія карані — ён ужо, бачыце, не проста гараджанін, а інтэлігент (“мяса”), якое сядзіць на “сялянскай косці”, у яго ўжо інтэлігенцка-гарадская ментальнасць-псіхалогія, сфарміраваная на сінтэзе царскага вялікадзяржаўнага шавінізму і савецкага пралетарскага інтэрнацыяналізму, паводле радаводу, паводле сваіх біялагічных вытокаў ён — селянін, вясковец, а паводле светапогляду — з этой эпохі, у якой жылі цары і генсекі.

Тарас начапляе на сялян жахліва-знішчальную лексіку: яны “прыземленыя”, “скупыя”, іх “культура — гэта традыцыя, а не творчасць”; у іх “матэрыяльны інтарэс перавышае духоўна-культурны”. Адным словам — плебеі, сацыяльнае дно; сялянская маса — не нацыя, а “клас” (тубылцаў), пад “нацыяй” ён разумее гараджан, яны знаходзяцца на больш высокім сацыяльным і культурным узроўні.

На канферэнцыі гэта, мусіць, выдавалася за “навуковасць” і сённяшнюю паўсядзённую практыку.

Анатоль Яфімавіч, бадай, не ведае, што ён у нейкім сэнсе эпігон, у яго былі ідэйныя папярэднікі — расійская арыстакратыя. У XVIII стагоддзі, па гістарычных мерках зусім нядаўна. Яна пагардліва называла ніжэйшыя слаі гарадскога насельніцтва “подлыми людзьми”. Яны мелі сялянскае паходжанне, як і арыстакраты, але гарадская знаць адмяжоўвалася ўжо ад сваіх калісьці сацыяльна аднолькавых братоў, зараз “подлых людзей”.

Паводле ацэнкі Тараса-гараджаніна, у сённяшніх беларусаў многа заган: у іх “пераважае сялянская псіхалогія “мая хата з краю”; “сялянскі правінцыялізм”, “яны прывыклі скардзіцца, прыбядняцца. Плюс забабоны”. І, на думку Тараса, гэтыя заганы “будут до тех пор, пока не станет определяющей психология городского человека”. Не люблю давать прогнозы, но все же смею думать, что на городскую нацию мы будем похожи через поколение, лет через 20”, — сціпла прагназуе “мадэратар”.

“Гарадская нацыя” — гэта ўжо амбіцыя, новае слова-думка ў сацыялогіі. З таго часу, як гадоў 200—300 таму пачаў зараджацца і фарміравацца-распаўсюджвацца капіталізм, і па сёння пад нацыяй разумеюць не “клас”, а племя, народ, гістарычную супольнасць людзей, якія спрадвеку ці доўгі час жывуць на адной тэрыторыі, маюць свае спецыфічныя моўныя, псіхалагічныя, культурна-бытавыя і іншыя асаблівасці, характэрныя для ўсяго насельніцтва гэтага рэгіёна — вясковага і гарадскога, для ўсёй нацыі. Зыходзячы з рыторыкі Тараса, няцяжка здагадацца, якой будзе “гарадская нацыя”, сфарміраваная з сённяшніх беларусаў па псіхалогіі, мове, гістарычнай памяці; яна будзе падобна ва ўсім на брэжнеўскі “савецкі народ”, зрусіфікаваны да мозгу касцей, але такая змрочная, генацыдная перспектыва ніколькі не хвалюе Тараса.

Тарас: “Я не согласен с теми, кто говорит, что если не будет мовы, то не будет и Беларуси. Это неправда. Есть примеры других стран, Ирландии, например, где на языке колонизаторов, на английском, разговаривают 97 процентов населения”.

Для падмацавання сваіх антыбеларускіх поглядаў і заспакаення сумлення Тарас скарыстоўвае гістарычныя прэцэдэнты, праводзіць гістарычныя паралелі (маўляў, мы не адны такія бязродныя, гэта нармальна). Хісткая паралель! Яна б’е па логіцы Тараса, а не ўзмацняе яе, не ўмацоўвае яго аўтарытэт гісторыка, а паніжае.

Ірландцы, як і беларусы, — родныя браты па нацыянальнай трагедыі, якая напаткала іх на гістарычным шляху. Няма правілаў без выключэнняў. Моўная брытанізацыя ірландцаў, як і русіфікацыя беларусаў — не гістарычная заканамернасць, а кан’юнктура, збег жыццёвых абставін, у якія трапілі не па сваёй волі славянскае племя беларусаў і кельцкае племя ірландцаў.

Супраць ірландцаў дзейнічалі яшчэ больш жорсткія ўнутраныя і знешнія абставіны: астраўная краіна з неангласакскім этнасам. Няма каму руку падаць, няма з кім параіцца-паразмаўляць. Побач, праз нешырокі праліў, — велізарны востраў Вялікабрытаніі, які, калі глядзець на карту, ашчэрыўся рознафігурнымі берагамі вакол маленькай Ірландыі. Да таго ж вялікі кавалак яе зямлі — Паўночная Ірландыя — знаходзіцца пад юрысдыкцыяй Англіі, акупаваны.

У беларусаў усё-такі больш спрыяльныя геаграфічныя, гістарычныя і нават палітычныя (салідарнасць суседзяў) умовы для адраджэння, чым у ірландцаў.

Тарасу трэба раўняцца не на ірландцаў, а на яўрэяў — выключна патрыятычную нацыю, эталон і ўзор нацыянальна-вызвольнага руху. Яшчэ да Ісуса Хрыста іх старажытную зямлю — Іудзею і Палесціну — заваявалі больш шматлікія і ваяўнічыя арабскія плямёны, і яўрэі вымушаны былі ратавацца ўцёкамі ў Еўропу і Паўночную Афрыку. Больш за дзве тысячы гадоў яны блукалі па свеце, але здолелі захаваць сябе як нацыю і аднавіць сваю дзяржаўнасць у 1948 годзе, скарыстаўшы спрыяльную гістарычную кан’юнктуру і заснаваўшы Дзяржаву Ізраіль. За час блукання па свеце яны страцілі сваю родную мову — іўрыт, але аднавілі яе па старажытных пісьмовых помніках, нават па Біблії і надалі ёй сучасны дзяржаўны статус. Вось чый патрыятычны подзвіг варты пераймання і прапаганды!

Прагрэсіўная і заканамерная з’ява — планамерны навукова-тэхнічны прагрэс рэвалюцыянізуе і якасна пераўтварае ўсе сферы чалавечай дзейнасці: эканамічны базіс і нематэрыяльную, разумовую надбудову над ім, уключаючы светапогляд і псіхалогію чалавека. Сёння ў найбольш развітых дзяржавах — ЗША і краінах Еўропы — у сельгасвытворчасці занята 3—5 працэнтаў насельніцтва, у Беларусі — каля 20 працэнтаў. Урбанізацыя працягваецца, ніхто яе не спыніць. Аднак англасаксы, германцы, славяне, французы, іспанцы, італьянцы, скандынавы і другія передавыя нацыі сучаснасці, пераехаўшы жыць і працаваць у горад і змяніўшы сваё сацыяльнае аблічча, застаюцца па крыві і духу тымі ж патрыётамі, кім былі раней, і яны ніколі не здрадзяць сваёй роднай зямлі і свайму роднаму этнасу, будуць ад пакалення да пакалення, з веку ў век аберагаць і памнажаць-узбагачаць сваю нацыянальную адметнасць.

Пасля таго, як чвэрць стагоддзя таму ляснула савецкая імперыя, акрыялі духам і цвёрда сталі на шлях адраджэння ўсе яе былыя нацыянальныя ўскраіны — украінцы, прыбалты, народы Каўказа і Сярэдняй Азіі. Пераасэнсоўвае сябе і сваю гісторыю метраполія — руская нацыя. Толькі многія беларусы не могуць усвядоміць, што адбылося на іх зямлі, у Белавежскай пушчы ў снежні 1991 года. Яны ўсё яшчэ азіраюцца назад і там шукаюць адказы на сацыяльна-эканамічныя, палітычна-нацыянальныя і культурна-асветныя выклікі сучаснасці. Авангардную ролю тут адыгрываюць манкурты, знікаючае савецкае племя, але стракатае, рознакаліберае паводле сацыяльнага паходжання, па ўзросце, пераважна з “той эпохі”, але ўсё яшчэ актыўнае, з мэтанакіраванай ідэалогіяй.

***

У заключэнне — утылітарна-спажывецкая з ідэалагічным зместам прапанова. Беларусаў трэба абудзіць, біць у званы, каб яны хутчэй і дружней пераходзілі пад сцягі Адраджэння. Як і чым будзіць? Ідэяй, словам. У падмурку ўсякай ідэі, вялікай і малой, заўсёды было слова. Сваю ідэю-хімеру аб бяскласавым і безнацыянальным грамадстве Карл Маркс выклаў у “Маніфесце Камуністычнай партыі”, а яго “ўнук” Іосіф Сталін замацаваў марксісцкія ідэі ў сваім “Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)”. Пачвара нямецкай нацыі Гітлер ачмурыў яе сваім “Майн кампфам”, фашысцкімі нечалавечымі ідэямі і сваёй разбойна-крывавай практыкай.

У нашага Адраджэння — высакародная мэта, не скіраваная ні супраць грамадзян другіх нацый, што жывуць на нашай зямлі, ні супраць суседзяў. Беларусы хочуць адрадзіцца як самабытная еўрапейская нацыя славян, і нам сёння вельмі патрэбны, як глыток свежага паветра, свой “Маніфест” і сваё “Евангелле”, у якіх у даходлівай форме, простай і зразумелай мовай будуць выкладзены і абгрунтаваны ідэі, прынцыпы і пастулаты нашай нацыянальнай ідэі. Яны рассеяны ў шматлікіх кнігах (манаграфіях, калектыўных зборніках), у публікацыях перыёдыкі, у тым ліку і ў “Народнай Волі”, напісаных і надрукаваных у апошніх 25 гадоў, калі БССР стала незалежнай Рэспублікай Беларусь. Засталося толькі адшукаць іх, вычленіць, сістэматызаваць, класіфікаваць і актуалізаваць з рэаліямі сённяшняга дня і выдаць асобнай кнігай. Разумею складанасць гэтай задумы. Патрэбны не толькі “чалавечы фактар”, селекцыянер з нацыянальна-патрыятычнымі памкненнямі, але і матэрыяльны, фінансавы. Спадзяванне на спонсараў. Такая кніга павінна быць настольнай у кожнай сялянскай хаце і ў кожнай гарадской кватэры.

**Мікола ЯРМАШЭВІЧ,**
**беларус.**

*Брэст.*

**P.S.** Я не багацей, але ганарар мне не налічвайце.

**ПРАЦЯГ ТЭМЫ**

## *Замест музея хмарачос*



Вырашыў уключыцца ў дыскусію, прапанаваную “Народнай Воляй”, наконт забудовы Цэнтральнай плошчы Мінска. Газета запыталася: а што мы, чытачы, хацелі б бачыць на месцы былога Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны? На маю думку, было б вельмі добра, каб у нашым горадзе з’явіўся шматпавярховы сучасны будынак. Крыўдна, калі ў Расіі нават у абласных гарадах ёсць дамы па 50 і больш паверхаў, а ў сталіцы Беларусі нічога падобнага няма. Лічу, што Цэнтральная плошча лепш за ўсе месцы Мінска падыходзіць для рэалізацыі гэтага праекта.

Можа, архітэктары мяне раскрытыкуюць, але я так думаю.

**Віктар КУНЦЭВІЧ,**
**жыхар горада.**

**ИЗ ПИСЬМА**

## *Открытым голосованием*

Не за горами очередные президентские выборы. Предлагаю избирательные комиссии формировать на собраниях трудовых коллективов открытым голосованием.

И еще. Вернуть профсоюзам все права на санатории, дома отдыха и турбазы, а также право проведения лотерей. Тем более что Козик уходит на пенсию и будет новый профсоюзный лидер.

Считаю, что общественности нужно требовать у Лукашенко отчета о расходовании государственных средств на содержание его и его аппарата.

**В.СТЕПАНИЩЕВ.**

*Витебск.*

**ДУМКІ ЎСЛЫХ**

## *Хацеў бы я памыліцца...*

“Народная Воля” апублікавала зварот групы актывістаў да дэпутата Палаты прадстаўнікоў Дзмітрыя Шаўцова з прапановай правесці публічныя дэбаты наконт ягонай ініцыятывы ўвесці платнае наведванне паліклінік. Актывісты прапануюць публічна абмеркаваць гэтае балючае для насельніцтва пытанне. І згодны на любыя ўмовы, толькі б правесці дэбаты. Яны прапанавалі Шаўцову на яго меркаванне выбраць месца і склад групы аднадумцаў. Калі падумаць, то якія тут могуць быць перашкоды? Усё, як кажуць, у руках дэпутата. Было б толькі жаданне.

Хацеў бы я памыліцца, але чамусьці не сумняваюся, што публічныя дэбаты не адбудуцца, бо тады яны стануць заканчэннем дэпутацкай кар’еры дэпутата Д.Я.Шаўцова.

**А.Г.ЛАЗАВІК,**
**ветэран працы**
**з 53-гадовым стажам.**

**ВОДГУК**

## *Дзякуй, спадарыня Жыбулеўская!*




“Мілай Соф’і Антонаўне”, — так пачынаецца аўтограф Генадзя Бураўкіна ў гэтай незвычайнай кнізе. Незвычайнай таму, што яна амаль уся складаецца з гэтых самых аўтографаў. І заслуга яе ўкладальніка, былога дырэктара мінскай кнігарні “Акадэмічная кніга” Соф’і Антонаўны Жыбулеўскай, у тым, што яна, пакладаючы перад чытачом жывы почырк асоб, дае нам магчымасць яшчэ адной сустрэчы з імі. Паміж “Соні Жыбулеўскай” (Еўдакія Лось) і “З глыбокай павагай да кніжнага міністра” (Міхась Міцкевіч, сын Якуба Коласа) у кароткіх аўтографах-творах гучаць галасы Ніла Гілевіча, Сяргея Законнікава, Уладзіміра Шыліхіна, Васіля Ліцьвінкі, Янкі Запрудніка, Івана Грамовіча, Івана Калесніка і многіх-многіх іншых, хто складаў і складае гонар айчыннай культуры і літаратуры. Аўтографы выклікаюць павагу да чалавека, які ўсё жыццё служыў кнізе і пракладаў дарогу да чытача беларускамоўным выданням.

Сёння родная мова знікае, беларускі кніжны рынак забіты таннымі кнігамі расійскіх выдаўцоў. У Расіі яны маюць прэферэнцыі ад дзяржавы, у нас жа няма каму пра гэта казаць... акрамя вас, Софья Антонаўна. Ды і прапаганда пераўтварыла беларускага пісьменніка з народнага любімца ў пудзіла нацыяналізму. Сёння ён свой аўтограф можа даць бадай толькі ў клазеце (паэт раздаваў аўтографы на выставе (!) — расцанілі як палітычную акцыю). Вось чаму ваша кніга каштоўная, вось чаму і пісьменнікі, і выдаўцы дзякуюць вам.

**Віктар ХУРСІК, выдавец.**

**Мінск.**

**КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ**

## *Хоць гаршком называй, толькі грошы давай*

***Расійскі прэм’ер Дзмітрый Мядзведзеў падпісаў распараджэнне аб выдзяленні крэдыту “Республике Белоруссии”.***

*Мы з Расіяй цяпер у хаўрусе.*
*“Костку” кінула нам са стала,*
*Ды імперская не Беларусі —*
*“Белоруссии” грошы дала.*
*Столькі ў гэтым ганебнай пагарды*
*(Ці ж павагі чакаць жабраку?),*
*Што пры гонары тыя мільярды*
*Сталі б косткаю*
*У гарляку,*
*Бо найменне халопскае тое —*
*Як абраза ці нават плявок:*
*“Ты была пад маёю пятою*
*І навек застанешся!” — намёк.*
*Хтосьці даў бы, як кажуць, у рыла,*
*Не сцярпеў бы знявагі такой...*
*Наша ўлада ўсміхаецца міла,*
*Ад яе — цішыня і спакой.*
*Толькі й кажа лісліва, як лёкай*
*Велькаможнаму гаспадару:*
*“Пра мяне ты што хочаш галёкай —*
*Праглыну я і перавару.*
*Гвадэлупай заві, Гандурасам,*
*Толькі грошы за гэта давай!”*

* * *

*“Белоруссия” сёння...*
*А з часам*
*Будзе “Северо-Западный край”.*

## *Нацдэмы — паліглоты, чыноўнікі... як боты*

***Віцэ-прэм’ер Анатоль Тозік: “На нашых кіраўнікоў са здзіўленнем глядзяць у еўрапейскай супольнасці, калі яны не могуць нешта сказаць па-англійску падчас дзелавых перамоў і просяць даць перакладчыка”. Між іншым, прадстаўнікі “пятай калоны” Вінцук Вячорка і Аляксандр Мілінкевіч валодаюць некалькімі замежнымі мовамі.***

*Я газет і кніг чытаю тоны.*
*Сёння ў іх цікавы факт знайшоў:*
*“Дзермакраты” з “пятае калоны”*
*Ведаюць па пяць замежных моў!*
*Нашыя нацдэмы — паліглоты!*
*Гэта ў рукаве казырны туз.*
*І Пазьняк, і хлопчык жоўтароты*
*Швэркаюць, як немец ці француз.*
*Ёсць карысць з таго, што ўсе туземцы*
*З імі размаўляюць твар у твар:*
*То падкінуць трохі еўра немцы,*
*То ад Штатаў выпадзе даляр.*
*Дык яно й не дзіўна, што пазыкі*
*Не даюць нам — хоць даляраў сто:*
*Наш Савет міністраў “без’языкі” —*
*Іншых моў не ведае ніхто!*
*Скажам, з крэдыторамі сустрэча.*
*Трэба папрасіць. Але яны*
*Слоў не звяжуць двух па-чалавечы,*
*Лыпаюць-глядзяць, як бараны.*
*Ім сустрэча тая — як пакута,*
*А размова — як кашмарны сон.*
*Мусібыць, у школах-інстытутах*
*За акном падлічвалі варон.*
*Толькі і ўляцелі ім у вуха*
*Словы, што крычаць на поўны рот*
*Дзеўкі, калі круціцца парнуха:*
*“О, зэр гут!”, “Фантастыш!”,*
*“О, майн гот!”*
*І хоць чалавек які харошы*
*Што-нішто для іх перакладзе,*
*Але хто ж даваць захоча грошы*
*Нейкаму аблудзе-гламаздзе?*
*Так у нас і ў спорце, і ў культуры:*
*Ад чыноў пачуеш “пык ды мык”.*
*Што там фін ці швед — смяюцца куры,*
*Як чыноўнік наш “глынуў язык”.*
*Сорамна глядзець — аж сэрца ные:*
*Лічаць там, што ўвесь народ дурны.*
*(Добра, што ў Еўропу неўязныя*
*Самыя вяльможныя чыны.)*
*А народ наш не дурны, як чобат,*
*Мову ён спазнаў не толькі з кніг.*
*Быў чэмпіянат, дык за вучобу*
*Нашыя чыны садзілі ўсіх,*
*Каб у нас запрошаныя госці*
*Розныя аблазілі куткі,*
*І маглі пра Беларусь хоць штосьці*
*Расказаць-паведаць мінчукі:*
*Лекары, таксісты і бармены,*
*Міліцыянеры, гандляры...*
*А чыны, прабачце, як бязмены,*
*Колькі ні ўшчувай, ні гавары.*
*Выгляд жа пры гэтым маюць панскі,*
*Гонару і пыхі — цераз край!*

* * *

*Сорак рускіх,*
*Дзесяць слоў іспанскіх*
*Ад мяне засвоіў папугай...*

**З ЛІСТА**

# Баяцца ўласнага народа?

Думаю, не я адзін заўважыў, як шчыльна ў наша жыццё ўвайшлі ўсялякія “прамыя лініі”. Напрыклад, у нашым Пружанскім раёне сувязь чынавенства з народам зараз ажыццяўляецца выключна праз “прамыя лініі”. З аднаго боку, гэтая сляпая сувязь быццам бы і ёсць, але паспрабуй датэлефануйся!

Дакладна не ведаю, можа, каму і ўдалося датэлефанавацца, але я асабіста, як ні стараўся, за ўсе гэтыя гады ні разу так і не змог, бо ўвесь час абанент “заняты”. Складваецца ўражанне, што чыноўнік зняў слухаўку з апарата, а сам пайшоў па сваіх справах. Ніхто нічога не ведае, усё за жалезнай заслонай. Вось такія нялюдскія стасункі: “народ—чыноўнік”. Адсюль вынікае аксіёма: сумленны чыноўнік не будзе баяцца глядзець у вочы свайму народу, а калі дэпутаты і чыноўнікі не хочуць сустрэчы з простымі людзьмі, то і прыдумляюць “прамыя лініі”.

А памятаеце, як было раней? Так, напрыклад, дэпутаты Вярхоўнага Савета 12-га склікання абавязкова прыязджалі ў свае акругі і адкрыта давалі справаздачу не радзей за адзін раз у квартал, ад іх не адставалі мясцовыя дэпутаты і чыноўнікі раённага маштабу. Напрыклад, у Пружанах збіраліся да тысячы і больш чалавек. Кожны мог задаць пытанне і атрымаць адказ. Усё было празрыста, адкрыта і зразумела.

**Мікола КАНАХОВІЧ,**
**афіцэр у адстаўцы.**

*г.Пружаны.*

Прамая лінія

29 верасня 2014 г. з 16.00 да 18.00 гадзін па тэл. у Брэсце (8-0162) 21-26-61 старшыня камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Брэсцкага аблвыканкама **АКСЯНЕВІЧ Міхаіл Сцяпанавіч** ПРАВЯДЗЕ «ПРАМУЮ ТЭЛЕФОННУЮ ЛІНІЮ» па пытаннях працы, занятасці і сацыяльнай абароны.

30 верасня 2014 г. з 10.00 да 12.00 гадзін па тэл. у Брэсце (8-0162) 27-58-12 АДБУДЗЕЦЦА «ПРАМАЯ ТЭЛЕФОННАЯ ЛІНІЯ» з начальнікам упраўлення ўнутраных спраў Брэсцкага аблвыканкама генерал-маёрам міліцыі **Фёдарам Фёдаравічам БАЛЕЙКАМ.**

29 верасня з 9.00 да 10.00 гадзін па тэл. 9-01-22 «ПРАМУЮ ТЭЛЕФОННУЮ ЛІНІЮ» ПРАВЯДЗЕ начальнік упраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне райвыканкама **Віталій Іванавіч МАТВІЕНКА.**

29 верасня з 9.00 да 11.00 гадзін па тэл. 9-11-77 АДБУДЗЕЦЦА «ПРАМАЯ ТЭЛЕФОННАЯ ЛІНІЯ» з загадчыкам аддзела гігіены ДУ «Пружанскі раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі» **Яўгеніем Іванавічам ШЧЭРБАЙ.**

Да ўвагі жыхароў раёна!

30 верасня з 9.00 да 11.00 гадзін на базе УАЗ «Пружанская ЦРБ» (кабінет №40) БУДЗЕ АРГАНІЗАВАНА РАБОТА «ГАРАЧАЙ ЛІНІІ» ПА ПЫТАННЯХ ПРАФІЛАКТЫКІ ГРЫПУ. Кансультацыю праводзіць загадчыца тэрапеўтычнага аддзялення паліклінікі Ж.Ж.Ісакава. Даведкі па тэл. 9-11-09.

30 верасня з 14.00 да 16.00 гадзін БУДЗЕ ПРАЦАВАЦЬ «ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ» ПА ПЫТАННЯХ ПАПЯРЭДЖАННЯ І ЛЯЧЭННЯ ХВАРОБ ЛЮДЗЕЙ ПАЖЫЛОГА ЎЗРОСТУ. Кансультацыю праводзіць загадчыца паліклінікі В.В.Грышкевіч. Даведкі па тэл. 2-24-74.

РАЗВІТАННЕ

# «Ён па-іншаму проста не мог»

*У нядзелю ў Мінску развіталіся з Міхаілам Марынічам. Былы кіраўнік Мінска і міністр, а потым — палітвязень памёр пасля цяжкай хваробы на 75-м годзе жыцця.*



Сярод тых, хто прыйшоў на цырымонію развітання, якая прайшла ў рытуальнай зале на вуліцы Альшэўскага, былі першы кіраўнік незалежнай Беларусі **Станіслаў Шушкевіч**, экс-кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2006 года **Аляксандр Казулін**, лідар грамадзянскай кампаніі “Гавары праўду!” **Уладзімір Някляеў** і ягоны намеснік **Андрэй Дзмітрыеў**, галоўны рэдактар газеты “Народная Воля” **Іосіф Сярэдзіч** і яго першы намеснік **Святлана Калінкіна**, кіраўнік каардынацыйнага камітэта Нацыянальнай платформы Форума грамадзянскай супольнасці Усходняга партнёрства **Уладзімір Мацкевіч**, прадстаўнік амбасады ЗША **Крыстафер Паніка**, кіраўнік прадстаўніцтва Еўрасаюза ў Беларусі **Майра Мора**, журналіст **Аляксандр Тамковіч**, старшыня БКДП **Аляксандр Ярашук**, экс-старшыня Мінгарвыканкама і былы прэм’ер-міністр **Уладзімір Ярмошын**, былы кіраўнік Упраўлення спраў прэзідэнта **Іван Ціцянкоў**, былы кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта **Леанід Сініцын** і іншыя.

Як адзначыў сын палітыка **Ігар Марыніч**, у 2001 годзе ягоны бацька, займаючы ў той момант пасаду амбасадара Беларусі ў Латвіі, прыняў рашэнне ўдзельнічаць у прэзідэнцкай выбарчай кампаніі.

*“Трэба было дапамагчы краіне, і гэта быў ягоны свядомы выбар. Правільна ці няправільна яно было, цяжка меркаваць. Гісторыя пакажа,* — сказаў Ігар Марыніч. — *Але ён здзейсніў учынак, учынак мужчыны. Я заўсёды паважаў яго за гэта і падтрымліваў ва ўсім. Бацька заўсёды быў прыкладам, я раўняўся на яго, калі прымаў нейкія рашэнні”.*

Станіслаў Шушкевіч адзначыў: *“Гэта быў годны чалавек, які заўсёды кіраваўся сумленнем і прыстойнасцю і шчыра любіў Беларусь”.*

Уладзімір Ярмошын расказаў, што пазнаёміўся з Марынічам на рэканструкцыі рамонтнага завода ў 1969 годзе: *“45 гадоў мы сябравалі. Ён неяк і ў душы, і з выгляду заўсёды быў зварушлівы чалавек, заўсёды хацеў зрабіць лепш. Ён заўсёды прыходзіў на дапамогу”.*

Ярмошын нагадаў, што Марыніч працаваў намеснікам старшыні і старшынёй Мінгарвыканкама. *“І мяне зацягнуў у гэты гарвыканкам”,* — сказаў ён. Гаворачы аб удзеле Марыніча ў выбарах, Ярмошын адзначыў: *“Гэта ягонае было рашэнне, Міша выбраў гэты шлях”.*

Экс-кіраўнік спраў прэзідэнта Іван Ціцянкоў сказаў, што ведаў Марыніча як надзвычай прыстойнага чалавека. *“Ён заўсёды людзям дапамагаў і па-іншаму проста не мог. На ўсіх пасадах да справы ён ставіўся добрасумленна. Нікога ў жыцці не мог пакрыўдзіць і не пакрыўдзіў”,* — сказаў ён.

Пасля заканчэння цырымоніі развітання прайшло пахаванне Міхаіла Марыніча на Усходніх (Маскоўскіх) могілках Мінска.

## АСАБІСТАЯ СПРАВА

**Міхаіл Марыніч** нарадзіўся 13 студзеня 1940 года ў вёсцы Старыя Галоўчыцы Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут, Мінскі інстытут замежных моў, Мінскую вышэйшую партыйную школу. Ганаровы доктар эканамічных навук. Працаваў у будаўніцтве 16 гадоў, у тым ліку амаль тры гады ў Афганістане. З 1990-га да 1991 года — мэр Мінска, у 1990—1994 гадах — дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання. У 1994 годзе прызначаны Надзвычайным і Паўнамоцным паслом у Чэхіі і па сумяшчальніцтве — у Славакіі і Венгрыі. З 1994-га да 1998 года — міністр знешнеэканамічных сувязяў Беларусі. У 1999—2001 гадах — Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол у Латвіі і па сумяшчальніцтве — у Эстоніі і Фінляндыі.

Узначальваў грамадскую арганізацыю “Дзелавая ініцыятыва”.

26 красавіка 2004 года Міхаіл Марыніч быў арыштаваны. Прычынай стала ягоная актыўная грамадская дзейнасць і ўдзел у прэзідэнцкай кампаніі 2001 года. 30 снежня Мінскім раённым судом палітык быў прызнаны вінаватым у прысваенні аргтэхнікі амбасады ЗША, перададзенай у бязвыплатнае карыстанне асацыяцыі “Дзелавая ініцыятыва”, якую ён узначальваў. Праз паўтара месяца калегія Мінаблсуда зменшыла тэрмін пазбаўлення волі Міхаіла Марыніча з 5 да 3,5 года, улічваючы яго ранейшыя заслугі перад дзяржавай, сталы ўзрост і стан здароўя.

7 сакавіка Міхаіл Марыніч перанёс інсульт у Аршанскай калоніі ўзмоцненага рэжыму, дзе яму адмаўляліся перадаваць лекі. Толькі дзякуючы патрабаванням беларускай і міжнароднай грамадскасці Марыніча перавялі ў Рэспубліканскі турэмны шпіталь у Мінску.

У падтрымку палітвязня тады выступілі прэзідэнт Францыі Жак Шырак і прэзідэнт Латвіі Вайра Віке-Фрэйберга, дэпутаты парламентаў многіх краін свету, Еўрапарламента, парламенцкіх асамблей Савета Еўропы і АБСЕ. Патрабаванне вызваліць Міхаіла Марыніча ўтрымлівалася ў рэзалюцыі Еўрапейскага парламента. Заявы з патрабаваннем неадкладна вызваліць зняволенага прынялі таксама Еўрапейскі Саюз і Дзяржаўдэпартамент ЗША. Уплывовая праваабарончая арганізацыя “Міжнародная амністыя” прызнала Міхаіла Марыніча вязнем сумлення. З турмы палітык выйшаў па амністыі ў красавіку 2008 года.

Палітык памёр 17 кастрычніка ва ўзросце 74 гадоў.

# Бывай, Міхась Апанасавіч!

**У цяперашнім нашым жыцці, у якім мала хто паважае не сябе самога, а некага іншага, цяжка займець павагу. І ўсё ж Міхаіл Марыніч займеў яе, яго паважалі многія. Бо было за што паважаць.**

**Некалі ён меў рэпутацыю аднаго з самых талковых членаў беларускага ўрада. “Асновай новай стратэгіі могуць стаць толькі эканамічныя рэформы!” — паўсюль заяўляў Марыніч, і, хутчэй за ўсё, менавіта праз гэта (бо Лукашэнка не збіраўся нічога рэфармаваць) быў пазбаўлены месца ўпраўленца і сасланы ў дыпламаты.**

**У рангу пасла Беларусі ў Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі ён прыехаў у Хельсінкі. Мы спаткаліся. Адносіны ў нас даўно ўжо склаліся даверлівыя — і ён распавёў мне сцэнарый прэзідэнцкіх выбараў 2001 года.**

**Сцэнарый, калі коратка, быў такі: перад выбарамі ўрад падаваў у адстаўку — і нехта з урада (Марыніч разлічваў, што кіраўнік) вылучаўся кандыдатам у прэзідэнты. Гэтакі наменклатурны пераварот.**

**Па тым, як Міхаіл Афанасьевіч інтэлігентна заікаўся, называючы прозвішчы некаторых сваіх “паплечнікаў”, ён быў далёка не ўпэўнены, што ягоны сцэнарый можа быць рэалізаваны. Але гатовы быў рызыкаваць — і спытаў, што я пра гэта думаю. Калі падтрымліваю, дык ці магу вярнуцца ў Беларусь, каб арганізаваць падтрымку нацыянальнай інтэлігенцыі? Ён сам быў тыповым (савецкім) інтэлігентам і меркаваў, што інтэлігенцыя — вялікая сіла.**

**Ну вось што на такое можна было сказаць, ведаючы тых, на каго ён разлічваў як на паплечнікаў?.. Я сказаў, што заўсёды сімпатызаваў яму не толькі за ягоныя прафесійныя якасці, але і за чыста чалавечыя — найперш за рамантызм.**

**Помню, як ён усміхнуўся сваёй летуценнай усмешкай, дапіў каву, паківаў: “Так… Я разумею, пра што ты і пра каго. Але многія з іх мае сябры. Яны хочуць таго ж, чаго і я. Каб краіна рэфармавалася, змянялася, развівалася. І я ведаю, што яны — людзі слова”.**

**Ведаў ён, аказалася, далёка не ўсё і не пра ўсіх.**

**У Беларусь я вярнуўся, але наменклатурнага перавароту не адбылося. Ніхто з урада ў адстаўку не падаў. Марыніч сам паспрабаваў зарэгістравацца кандыдатам у прэзідэнты, а потым Лукашэнка “зарэгістраваў” яго ў турму.**

**Калі яго судзілі, зневажалі, рабілі з яго злачынцу, я ўсё чакаў, што тыя, з кім ён працаваў, сябраваў, хоць штосьці зробяць, скажуць нешта ў ягоную абарону. Ніхто з “людзей слова” ніводнага слова не сказаў… Тады я напісаў пра гэта — і адзін з іх, наш агульны знаёмы, патэлефанаваў крыўдліва: “Табе добра казаць!..”**

**Мне горка казаць…**

**Бывай, Міхась Апанасавіч!**

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ.**

ОТ ПЕРВОГО ЛИЦА

***Провожая в последний путь Михаила Маринича, мы не могли не вспомнить его многочисленные интервью «Народной Воле». Вот одно из них. Пусть оно еще раз всем нам напомнит, каким прекрасным человеком был Михаил Афанасьевич Маринич.***

# «К черту все! Берись и делай!»

Президентские выборы в нашей стране — это не просто очередная политическая кампания. Для оппонентов власти она оборачивалась тюрьмой, ломала судьбы, рушила карьеры. Чтобы поговорить о том, почему так получается, “Народная Воля” разыскала бывшего министра внешнеэкономических связей, бывшего посла Беларуси в Латвии, участника президентской кампании 2001 года Михаила Маринича.

В последнее время кажется, что Маринич ушел с политической арены в тень. Но этот год для него оказался богатым на события. Среди прочего важного — наконец-то появившееся решение Комитета по правам человека ООН. Комитет признал, что белорусский суд, в декабре 2004 года приговоривший политика к пяти годам лишения свободы за якобы кражу оргтехники у посольства США, не был справедливым и независимым. По мнению КПЧ, процесс над Мариничем строго контролировался спецслужбами, а судьи тенденциозно оценивали собранные во время расследования факты и показания свидетелей.

Эксперты ООН также пришли к выводу, что, поместив Маринича в СИЗО КГБ и возбудив уголовное дело, которое дошло до суда только спустя пять месяцев, государство нарушило его право на свободу и личную неприкосновенность. А показав по национальному телевидению некоторые эпизоды допроса в сопровождении фальшивых и унизительных комментариев — право презумпции невиновности. И самое страшное — было признано, что в отношении политика применялись пытки и бесчеловечное, унижающее достоинство обращение.

Теперь государство обязано обеспечить “надлежащее лечение, включая выплату соответствующей компенсации и проведение уголовного процесса для установления ответственности за недостойное обращение с господином Мариничем”. У официального Минска есть чуть более ста дней, чтобы отчитаться перед ООН о принятых мерах.

С Михаилом Мариничем и его чудесной семьей мы поговорили о том, зачем им нужно решение Комитета и чего сегодня они ожидают от государства. Мариничи рассказали о том, как воспитывают трехлетнего сына Мишку, борются с последствиями двух инсультов (второй случился в январе этого года), и о планах на будущее.

## Теплый дом

Мы беседуем с Мариничами на даче. “Дачный дом”, как говорит о нем маленький Мишка (сын), купили не так давно, он требует серьезного ремонта и еще не до конца приведен в порядок. Но уже готовы веранда, переделанная из большого балкона спальня с пятиметровым окном во всю стену, просторный кабинет. На стенах портреты родителей, подаренные картины, фотографии, дипломы: вот хозяин — доктор экономических наук, а вот — лауреат премии Совета министров СССР (за строительство станции метро “Восток” в Минске)...

Одна рама повернута к стене. Переворачиваем — это Благодарность Президента Республики Беларусь А.Г.Лукашенко, врученная Михаилу Мариничу к 60-летию, 2000-й год.

**— Эту вешать будете?**

— Вряд ли, — улыбается политик. И как-то сам собой завязывается разговор.

**— Михаил Афанасьевич, Комитет по правам человека ООН наконец принял решение по вашему делу, было признано, что государство грубо нарушило целый ряд ваших прав. Но все прекрасно понимают, что решение не будет исполнено белорусским правительством. Какой тогда в нем смысл?**

**Михаил Маринич:** — Это победа, а любому человеку просто необходимо побеждать. И это хороший пример, моральная поддержка и для меня, и просто для людей в Беларуси. Потому что, если ты чем-то занимаешься — политикой, бизнесом, тебе важно знать, что все-таки остались какие-то механизмы защиты прав и свобод, несмотря на дичайшую ситуацию в стране. Это, по-моему, первый случай реабилитации международной организацией политических заключенных в Беларуси, важный для всего белорусского общества.

**Татьяна Маринич:** — Миша сейчас акцентируется на моральной стороне, но нельзя забывать, что это правовое решение. Власть поменяется, и оно будет исполнено. Мы дождемся *(улыбается)*.

Я много думаю о том, через что прошел Михаил Афанасьевич в КГБ, в оршанской и минской тюрьмах. Думаю о тех издевательствах и фактически попытке его физически уничтожить, которые привели к серьезной болезни. И о том, с каким мужеством он все это переносил, как боролся каждый день и не сломался, проведя два года в тюрьме. И понимаю, что мой муж — это глыба! Я очень им горжусь! Поэтому решение ООН исключительно важно для всей нашей семьи.

**— Многие до сих пор не могут понять, зачем вы пошли на президентские выборы в 2001 году. Была ведь абсолютно сытая, спокойная номенклатурная жизнь, никто не собирался вас трогать. Кроме того, вы — человек системы — не могли не знать, чем все может закончиться. Сидели бы себе тихо в Латвии послом…**

**М.М.:** — Не мог сидеть, особенно после Латвии. Я ведь именно там почувствовал, что мы както не так живем, что страны Балтии делают шаг вперед, а наша страна катится назад. К тому моменту исчезли Гончар, Красовский, Захаренко, умер Геннадий Карпенко... Западные дипломаты, чиновники, бизнесмены говорили мне: “Что вы делаете? Опомнитесь! С кем вы собираетесь воевать?!” Я понимал, что последствия могут быть тяжелыми, потому что, очевидно, мое мнение совсем не совпадало с курсом руководства страны, я открыто выступал против авторитарного режима власти Лукашенко. Были, конечно же, опасения за семью, за сыновей, но я старался об этом не думать. Понимаете, кто-то должен был это сделать!

**Т.М.:** — Действительно, Латвия повлияла на мужа очень сильно. Так получилось, что после Мишиной болезни, впервые в этом году, за границу мы поехали именно в Ригу, на международную конференцию. Если бы кто-то из лечащих врачей узнал, что Миша собрался куда-то поехать, то, наверное, посчитал бы нас безумцами. Но мы рискнули и очень довольны. Это ежегодная, очень серьезная конференция, где все Маринича знают и очень тепло к нему относятся: послы, президенты... В книге гостей конференции мы записали, что Рига всегда дает шанс изменить жизнь. В первый раз Рига, по сути, заставила его созреть как политика, помогла решиться на такой шаг, как президентские выборы. А сейчас дает второй шанс — переломить свою болезнь.

**— Семья пробовала вас отговаривать в 2001 году?**

**Игорь (сын):** — Отец не тот человек, которого можно отговорить. Его решение было для нас такой же неожиданностью, как и для всех. Мы реально понимали, с чем придется столкнуться: даже не беря в расчет такие крайности, как исчезнувшие люди, мы, например, знали о судьбе Михаила Чигиря. Но мы понимали и другое: если папа принял решение, тут надо либо помогать, либо не помогать — отговаривать бесполезно... Мы решили помогать.

**— Ходили слухи, что у вас была сильная поддержка Кремля, мол, Путин чуть ли не на инаугурацию вас звать собирался…**

**М.М.:** — Такого не было. Но, в принципе, когда я принял решение идти на выборы, то советовался с политиками и послами стран Европы и России в Латвии — все они дали мне понять, что негласно поддерживают меня и будут информировать свои правительства.

**— Вы ждали поддержки в белорусском правительстве, в белорусском дипкорпусе?**

**М.М.:** — Я надеялся, что у них проснется совесть и ответственность за страну...

**— Зная, что ваша кампания закончится столь плачевно: команду развалят, никто из чиновников в открытую поддержать вас не решится, зато будет тюремный срок и два инсульта, — вы бы повторили?**

**М.М.:** — Вы меня зажимаете в угол *(улыбается)*. Уже сделанный шаг с таких позиций оценивать нельзя.

## Три сына

Как, наверное, у всякой молодой мамы, у Татьяны Маринич десятки забавных историй о маленьком Мишке. Вот — из свежего. Выехали все вместе за город... Корова пасется... А Мишка до этого коров только на картинках видел. Посмотрел он на нее и говорит: “А давайте купим корову, будем ее молоко соседям продавать, а на эти деньги купим еще одну корову”. “Бизнесмен. Гены”, — улыбается Татьяна.

Во дворе “дачного дома” для Мишки поставили большую, в несколько метров, яркую горку. Во время интервью малыш сначала туда нас потащил, а потом и папу. И Михаил Афанасьевич не смог отказать: было видно, как тяжело ему забираться наверх и потом лихо съезжать вниз, он долго не мог решиться и все же, к восторгу ребенка, проехался. Вот так-то! После двух инсультов (один из которых случился в тюрьме) Михаил Афанасьевич идет кататься на горку, потому что иначе сын не поймет!

**— Вы уже очень зрелый папа, расскажите о своих ощущениях?**

**М.М.:** — Ну, Мишка — это такой подъем, такая радость, не дает мне расслабиться...

**Т.М.:** — Действительно не дает расслабиться, особенно в этот сложный период болезни. Мишка все время требует: “Папа, хочу на ручки!” Когда я впервые увидела, как после инсульта Миша взял Мишку и понес к машине, у меня сердце оборвалось... Он же был такой слабый, даже поднять ничего не мог, а тут ребенка несет!

**— Вы присутствовали при родах своего младшего сына. Это как минимум немного необычно для человека вашего поколения. Как решились на это?**

**М.М.:** — Да как-то очень просто все вышло. Мы рожали в Вильнюсе, а там так принято. Самое радостное — когда врач отдал мне Мишку и мы с ним начали говорить. Я ему стал что-то рассказывать. Какой он большой... Или какой он маленький... Не помню, честно говоря. Единственное, мне показалось, что он что-то отвечал, мурлыкал. И вот так с ним мы провели, сидя в кресле, где-то больше часа: я ему что-то говорил, а он слушал и мурлыкал.

**— А кто к малышу вставал по ночам?**

**Т.М.:** — Ой, мы ж такие сумасшедшие родители! С одной стороны, зрелые, а с другой — у меня не было опыта, а Миша уже ничего и не помнил. Плюс — у нас в роддоме лежишь дней пять, хоть чему-то учишься, а из Вильнюса мы вернулись домой на следующий день после родов. Естественно, очень переживали. Первую ночь вообще не спали: положили Мишку и смотрим на него, чтобы он не шелохнулся. Тут Миша вдруг решил, что наш ночник светит очень ярко, и Мишке некомфортно: он же только родился, и ему яркий свет нельзя. Накидали на лампу какой-то одежды, чтоб немного приглушить свет, и ночью все это, перегревшись, бабахнуло, несколько вещей сгорело...

**М.М.** *(улыбаясь)*: — Да, вот тут-то мы поняли, что надо как-то поспокойнее быть...

**— Получается поспокойнее?**

**Т.М.:** — Миша с ним много разговаривает: я могу вспылить, а он всегда долго объясняет. Читает сказки на ночь, даже сейчас, после инсульта, — для Миши это своеобразная тренировка речи. Стараемся заниматься с ребенком иностранными языками, чтобы с детства снимать языковые барьеры. Например, у меня иняз, три языка, но я понимаю, что учить язык, когда ты взрослый, это уже не то. Поэтому с Мишкой мы уже сейчас иногда разговариваем по-английски, что-нибудь вроде “клоус зэ дор”, “тарн оф зэ лайт”. В поездках всегда покупаем ему детские книги на английском, в Испании купили испанскую книгу “Посадка в самолет” (бабушка ему читает)...

**М.М.:** — Не забывайте, что Мишка не единственный мой сын. У меня ведь есть двое старших — Игорь и Павел. Они взрослые люди, и общение с ними — это общение с близкими друзьями. Я горжусь своими сыновьями и очень благодарен им за то, что они боролись за меня, когда я был в тюрьме. Они были рядом со мной и в этом, очень тяжелом для меня году, я чувствовал в них опору. Со старшим сыном Игорем мы видимся практически каждый день, вместе ездим в бассейн. Недавно у него был день рождения, и мне очень радостно, что я смог провести время вместе с ним и его друзьями. И еще у меня трое внуков — все мальчишки, которых я очень люблю. Им всем я стараюсь помогать советом, поддерживать. Воспитание старших сыновей было практически на их маме, я воспитывал скорее своим примером. Думаю, что они выросли хорошими людьми. А вот воспитанием младшего Мишки занимаюсь больше. Стараюсь ему ничего не запрещать. Свобода — главное условия развития. Ребенок не должен знать страха или запрета. У меня самое страшное “ругательство” для него — “Мишка, слушайся маму”. А вообще, главное, что ему объясняю, что он должен вести себя достойно.



## Человек государственный

**— Женщинам Мариничей с ними трудно?**

**Марина (невестка):** — Человек ко всему привыкает.

**Т.М.:** — Когда случился второй инсульт, никто из врачей в Мишу особо не верил, а сейчас он уже думает, как бы за руль сесть. Миша преодолевает себя каждый день. Сначала делал усилие, чтобы пошевелить пальцем, потом — сделать шаг, потом — чтобы заново учиться писать. Сегодня он вновь учит английский, плавает, много читает, работает в интернете, думает завести себе twitter. “Все зависит от его желания и внутренних ресурсов”, — сказал мне врач, имея в виду, что надеяться особо не на что: мол, откуда в таком возрасте возьмутся ресурсы? А я после этих слов начала улыбаться: я-то знала, сколько в нем внутренней силы. Он, да и все Мариничи, — люди с внутренним стержнем, по-хорошему упрямые. С ними сложно, но интересно.

**М.М.:** — А мне вот кажется, что я очень покладистый.

Эта реплика вызывает просто взрыв хохота у присутствующих. “Ну, ладно, доброжелательный, — тут же дает задний ход Михаил Маринич. — Меня в этой жизни никто не тянул, не было у меня волосатой руки. Я смог пройти такой ответственный путь только благодаря собственным способностям и потому, что люди мне доверяли, знали, что я человек слова и дела. И не встречались мне плохие люди. Даже вот такой момент вспомнился: я в Гомеле одновременно учился в политехническом училище и в Институте железнодорожного транспорта на вечернем (мне разрешили прямо на первом курсе параллельно поступить). Так нянечки и повара в училище мне всегда ужин оставляли, укутывали его, чтобы я пришел после занятий и поел горячего. Но и я в свою очередь старался к людям хорошо относиться”.

**— Ну, наверное, честнее всех о характере зятя расскажет теща,** — к нашему разговору присоединяется Анна Баранова. Теща. И, между прочим, теща не простая, а “звездная” — работала старшим тренером сборной Беларуси по художественной гимнастике, тренировала сборную Испании...

Однако Михаил Афанасьевич сделал вид, что возмущен: “Вот нашли кого спрашивать — тещу!”

**Анна:** — Михаилу Афанасьевичу одновременно присущи интеллигентность и простота, с ним действительно очень легко. А еще мне очень импонирует его постоянная установка “не расслабляться”. Он из тех, кто никогда не останавливается и этим невольно заставляет людей рядом с собой двигаться вперед.

**Т.М.:** — В августе мама ездила с испанской гимнасткой на первые олимпийские молодежные игры, и Миша ей давал какие-то стратегические советы: как настраиваться на результат, общаться с коллегами и т.д. То есть ему все интересно, он во все пытается вникнуть. И это заряжает, ты не можешь оставаться рядом с ним без движения. Но в то же время ты знаешь, что у тебя есть колоссальная поддержка. Благодаря Мише я закончила одну из ведущих мировых бизнес-школ. Это был очень сложный период для нас. Во-первых, сложная программа — я все не успевала, и мы вдвоем решали ночами бизнес-кейсы. Так что, можно сказать, Миша там тоже выучился *(улыбается)*. Во-вторых, пока я туда поступила, успел родиться Мишка. На первую резидентскую сессию в Мадрид мы полетели все вместе, на вторую я улетела в Шанхай одна, а Миша остался смотреть за годовалым ребенком. Ему помогала няня из Англии English Nanny, но, конечно, это было безумно трудно. Но на Мишу можно положиться. Всегда.

**— Задам последний вопрос. Чего вам сейчас хочется?**

**М.М.** *(после паузы)*: — Хочется, чтобы эта власть, наконец, оставила людей в покое. Чтобы на этих выборах победил демократический кандидат, и чтобы больше этот период беззакония и бесправия никогда не повторился в нашей истории. Лично я самым сильным оппонентом действующей власти сегодня считаю Андрея Санникова. Это дипломат, грамотный специалист, профессионал. Что очень важно, он лидер, который может действительно повести страну к демократическим переменам. У него огромный международный опыт, которым наше государство не смогло воспользоваться до сих пор...

**— А чего вы хотите для себя лично?**

**М.М.:** — Недавно я прочел прекрасную книгу Ричарда Бренсона “К черту все! Берись и делай”. Это размышления известного во всем мире миллиардера, человека, построившего свою империю с нуля. Его главный вывод — что в нашей жизни все в наших руках. Мои мысли сейчас о том, как выздороветь и начать что-то делать для страны. Ведь ее судьба — это моя судьба, я всегда был человеком государственным.

**Ирина МАЛЬЦЕВА.**

ІНШЫ ПОГЛЯД

# Беларусь партызанская: дзе міфы, а дзе праўда?




*Адны гісторыкі падаюць партызанскі рух у Беларусі часоў Другой сусветнай вайны як з'яву патрыятычна-гераічную. Іншыя малююць партызан выключна чорнай фарбай. Але праўда, як вядома, заўсёды знаходзіцца пасярэдзіне. Міфам і рэчаіснасці савецкага партызанскага руху ў Беларусі прысвечана кніга польска-нямецкага гісторыка* ***Богдана МУСЯЛА,*** *якая некалькі тыдняў таму трапіла на паліцы польскіх кнігарняў. Аўтар праанлізаваў шмат новых, невядомых да гэтай пары дакументаў беларускіх, расійскіх і нямецкіх архіваў. Акрамя таго, вядомы еўрапейскі гісторык паразмаўляў з сотнямі сведак тых падзей. Вынікам гэтай працы і стала амаль 700-старонкавая кніга.*

## Покліч сэрца ці прымус?

**— Спадар прафесар, давайце напачатку акрэслім, каго мы называем партызанамі?**

— З пункту гледжання міжнароднага і ваеннага права гэта ўзброеныя людзі, якія ў тыле ворага змагаюцца з гэтым ворагам. Не кожны, хто хаваецца ў лесе, з'яўляецца партызанам. У лесе хапала і бандытаў, якія часта выдавалі сябе за партызан. У партызан павінна быць місія змагання, палітычны і ідэалагічны фундамент. Зразумела, што і партызаны вельмі часта паводзілі сябе, як бандыты. Бо неяк трэба было выжываць, а мірным шляхам здабываць харчаванне ўдавалася рэдка.

**— Нядаўна Аляксандр Лукашэнка заявіў, што ў Беларусі ў часы Другой сусветнай вайны дзейнічала каля 600 тысяч партызан. Гэта рэальная лічба?**

— Гэта лічба са столі. Нават у савецкіх дакументах Беларускага партызанскага штаба няма гэтых лічбаў. Гэта звычайная прапаганда.

**— А колькі было сапраўдных партызан, якія выконвалі місію, пра якую вы ўзгадалі?**

— У Беларусі падчас вайны было 100 тысяч партызан. У розныя перыяды гэта лічба мянялася. Сто тысяч — паказчык з пачатку 1944 года, калі колькасць партызан была найбольшай. Так вынікае з дадзеных партызанскага штаба. Але трэба разумець, што і гэта завышаныя дадзеныя, бо на паперы партызан было больш, чым у сапраўднасці.

**— А колькі прыблізна было тых, хто называў сябе партызанам, але насамрэч ім не быў?**

— Тых, для каго галоўнай мэтай было перажыць вайну ў лесе, было менш, чым партызан. Канкрэтных лічбаў мы не ведаем. Але і савецкія, і нямецкія дакументы, і гісторыі мясцовых жыхароў сведчаць аб тым, што іх было шмат. Былі групы выжывання, якія не ўваходзілі ў структуру савецкай партызанкі. У іх не было зброі, таму пра сутыкненні з немцамі ўвогуле не было гаворкі. Яны проста жадалі выжыць. А як можна было выжыць у лесе? Для гэта трэба было мець тры вінтоўкі і некалькі куляў і з імі ісці ў вёскі па ежу. Зразумела, што для вяскоўцаў гэта былі звычайныя рабаванні. Але для гэтых груп іншай магчымасці выжыць не было.

Гэта было замкнёнае кола. У сувязі з акупацыяй розныя людзі былі вымушаны неяк выжываць. Мясцовым жыхарам немцы забаранялі дапамагаць партызанам і яўрэям, хаваць іх альбо дапамагаць харчаваннем. За гэта пагражала смяротнае пакаранне. Партызаны ў сваю чаргу патрабавалі дапамагаць і за адмову таксама забівалі. Тыя, хто бараніўся, былі для партызан ворагамі. Людзі былі ў бязвыхадным становішчы, бо што б яны ні зрабілі, гэта быў кепскі выбар. Яўрэйскае насельніцтва аказалася ў яшчэ горшай сітуацыі, па-за законам. Выбар у іх быў такі: альбо мяне заб'юць, альбо я выжыву ў лесе.

**— Беларусь часта называюць партызанскім краем. На гэтым, між іншым, збудавана дзяржаўная ідэалогія. Наколькі, па вашых ацэнках, гэты рух быў магутны і карыстаўся падтрымкай мясцовага насельніцтва?**

— Паводле савецкіх дакументаў часоў вайны, а не прапаганды, якая пісалася пасля вайны, палова партызан на тэрыторыі СССР была ў Беларусі. Паступова гэтая лічба вырасла да 70%, бо многія групы, напрыклад "акружэнцы", не мелі на той час пастаяннага кантакту з цэнтрам. Таму гаворка пра Беларусь як пра партызанскі край цалкам абгрунтаваная. Але калі хтосьці кажа, што гэта быў добраахвотны рух і што мясцовае насельніцтва яго актыўна падтрымлівала, то гэта не зусім адпавядае фактам. Мабілізацыя многіх мясцовых партызан адбывалася пад прымусам. Часам ісці ў лес людзей вымушалі дзеянні немцаў. Калі казаць пра мабілізацыю, то яе абвяшчалі па вёсках сярод мужчын, а тых, хто адмаўляўся ісці ў лес, пагражалі расстраляць. Тое самае было і з мабілізацыяй у Чырвоную Армію. Гэтыя людзі не мелі практычна ніякага выбару. Было вельмі шмат выпадкаў дэзерцірства. Кіраўніцтва партызанскага руху ў Беларусі складалася пераважна з прыезджых, мясцовых людзей там было мала. Таму яшчэ ёсць пытанне, ці можна казаць пра беларускі партызанскі рух. Гэта быў савецкі рух.

## З трэцяй спробы

**— Першыя спробы стварыць партызанскі рух у 1941 годзе пацярпелі фіяска. Чаму так адбылося?**

— Гэта рабілася вельмі непрафесійна, а бывала, што мясцовае насельніцтва нават дапамагала немцам змагацца з гэтымі групамі. У партызанскія групы ўваходзілі пераважна апаратчыкі, людзі з партыі, НКВДысты — тыя, каго мясцовыя жыхары часта проста ненавідзелі, бо яны былі прычынай многіх іхніх бед. Немцам удалося вельмі хутка ліквідаваць гэтыя спробы стварыць партызанку. У 1942 годзе адбылася чарговая спроба стварэння партызанскага руху. Але з дзеяннямі Крамля гэта не мае нічога агульнага. Пасля таго, як немцы разбілі Чырвоную Армію, дзясяткі тысяч "акружэнцаў" запоўнілі беларускія вёскі. Да іх трэба дадаць дзясяткі тысяч ваеннапалонных, якіх немцы вызвалілі. Гэтыя людзі жылі разам з тутэйшымі жыхарамі і дапамагалі ім. Інакш кажучы, былі рабочай сілай. Немцы ведалі пра гэтую сітуацыю, "акружэнцаў" яны ўспрымалі як патэнцыяльную пагрозу і на пачатку 1942 года хацелі зарэгістраваць гэтых былых вайскоўцаў-чырвонаармейцаў, каб выслаць іх у Германію на работу. "Акружэнцы" гэтага моцна спалохаліся. Яны лічылі, што немцы іх расстраляюць. Вось тады пачаліся масавыя ўцёкі ў лес. І вось гэта ўжо быў сапраўдны пачатак партызанскага руху. Праўда, немцы не збіраліся іх забіваць. Яны проста разумелі, што такая колькасць людзей, якія здольныя ваяваць, у тыле ды яшчэ і ў лясістых краях можа быць небяспечнай. Так і пачалі ўтварацца партызанскія групы.

**— А што пайшло не так у 1941 годзе?**

— Усё рабілася па-аматарску. Да 1934—1935 гадоў партызанская вайна была часткай ваеннай стратэгіі СССР. Рыхтаваліся партызанскія групы, ствараліся сакрэтныя склады зброі. Але потым стратэгія змянілася з абарончай на наступальную. Гэта стратэгія імгненнай вайны Тухачэўскага. Бальшавікі лічылі, што нападаць будзе СССР. Тое, што ён стане ахвярай, не бралася пад увагу. Калі пачаліся чысткі, то многія з партызан, якія прайшлі падрыхтоўку, былі забіты. Іншыя, такія як Варашылаў, займалі высокія пасады і не маглі арганізоўваць такі рух ад нізоў. У 1941 годзе стварэнне партызанскага руху адбывалася фактычна ад пачатку. У Саветаў проста не было традыцыі такога руху, бо не засталося людзей, якія да гэтага былі падрыхтаваны. Не хапала зброі, зброя была вучэбная, без боепрыпасаў. Не было мін, выбуховых рэчываў, не было транспартных самалётаў.

**— Дык па якім прынцыпе ўсё стваралася, калі не было стратэгіі партызанскага супраціву?**

— Былі створаны партызанскія школы, дзе пасля 2—3 дзён навучання людзей высылалі ў лес. Калі групы ўзначальвалі НКВДысты, то мясцовае насельніцтва не хацела ім дапамагаць. Былі, зразумела, адзінкавыя напады, аперацыі супраць акупантаў, але пагрозы для немцаў гэтыя групы не ўяўлялі, і яны разбілі іх даволі хутка. Больш было нападаў на мясцовае насельніцтва, на так званых здраднікаў. У адказ на гэта немцы стварылі паліцыю, у якую мабілізавалі мясцовых жыхароў. Па-першае, яны выдатна ведалі ваколіцы. Па-другое, выбіралі найперш з тых, хто пацярпеў ад савецкай улады. А такіх было вельмі шмат: у кагосьці Саветы забралі маёмасць, у кагосьці забілі жонку, і, канешне, людзі хацелі за гэта адпомсціць.

**— А ці былі выпадкі, што мясцовае насельніцтва масава ішло ў лес добраахвотна, кіруючыся нацыянальнымі і патрыятычнымі памкненнямі?**

— У беларусаў у прынцыпе не было вялікай патрэбы ісці ў лес. Нямецкая акупацыйная палітыка была прабеларуская. Зразумела, што яна зводзілася да таго, каб разыграць беларускае пытанне насуперак яўрэям, палякам, украінцам і рускім. Але з пункту гледжання тагачаснага беларускага патрыёта не было асаблівай патрэбы змагацца супраць немцаў, бо немцы адкрывалі беларускія школы, набіралі мясцовых жыхароў у адміністрацыю. Немцы фактычна гарантавалі развіццё беларускага патрыятызму і нацыяналізму. Нават некаторыя палякі запісваліся беларусамі, бо так можна было захаваць месца ў паліцыі.

**— Вы сказалі, што другую хвалю партызанкі стварылі самі немцы. А як гэтым групам удалося наладзіць сувязь з Масквой?**

— Гэта быў складаны працэс. Прасцей гэта ўдавалася партызанам ва Усходняй Беларусі. Каля Віцебска была так званая "суражская брама". У партызан, якія там дзейнічалі, была магчымасць наладзіць сувязь з Масквой. Гэта былі "акружэнцы", вельмі шмат афіцэраў. Яны ведалі, што калі не будуць змагацца, калі пойдуць у нямецкі палон, то, паводле савецкіх законаў, стануць здраднікамі. Згодна з дэкрэтам Сталіна ад 15 жніўня 1941 года, кожны чырвонаармеец, які здаваўся ў палон, лічыўся здраднікам. Сем'і афіцэраў за гэта чакала пакаранне. Яны аказаліся заложнікамі. Афіцэры з ваенным досведам разумелі, што яны павінны наладзіць сувязь з цэнтрам.

**— І як гэта ажыццяўлялася на практыцы?**

— Я апісваю выпадак групы Нічыпаровіча. Гэты палкоўнік узначаліў групу і меў намер перайсці лінію фронту. У выніку ён застаўся ў ваколіцах Клічава і праз 2—3 месяцы ўсталяваў кантакт праз савецкіх парашутыстаў. Саветы ведалі, што ў лясах шмат людзей, і намагаліся ўстанавіць з імі кантакт. Нічыпаровіч атрымаў загад заставацца на месцы і ствараць партызанскі рух. Але групам з Налібоцкай пушчы, напрыклад, прайсці такі кавалак дарогі было вельмі складана, шлях за фронт займаў тры месяцы. Кур'еры вельмі часта не даходзілі, а калі і даходзілі, то невядома, што за гэты час магло стаць з групай і дзе яна ўжо знаходзіцца. Умовай існавання атрада была пастаянная сувязь. Яе можна было мець толькі дзякуючы радыёстанцыі. Партызаны ў Налібоцкай пушчы змаглі аб'яднацца ажно ўвесну 1943 года. Але нават атрады без сувязі, якія ўзначальвалі афіцэры, удзельнічалі ў баях. Зразумела, гэта былі акцыі па меры магчымасці.



**— Як яны маглі праводзіць аперацыі да вясны 1943 года, пакуль усталявалася сувязь, калі ў іх не было зброі?**

— Брыгада імя Сталіна, напрыклад, збірала зброю ў лесе. Гэтага хапала на такія-сякія аперацыі, але не на вялікія акцыі. Прасцей было нападаць на 1—2 паліцыянтаў, найлепш мясцовых. Напады на чыгуначныя шляхі былі амаль што нерэальныя. Не было і выбуховых матэрыялаў.

**— Наколькі небяспечным для немцаў было тое, што партызаны рабілі да 1943 года, да моманту, калі была ўсталявана сувязь з Масквой?**

— З ваеннага пункту гледжання вялікага значэння гэта не мела. Але калі казаць пра акупацыйную палітыку, то пагроза была. Спакой у тыле быў парушаны. Чыніліся перашкоды ва ўборцы ўраджаю, партызаны палілі маёнткі, пілорамы, дэстабілізавалі сітуацыю. Але, з іншага боку, гэтыя землі былі не настолькі багатыя, каб нямецкая армія адчула праблемы. Напоўніцу ўсе жахі вайны адчула мясцовае насельніцтва, людзі апынуліся паміж молатам і кавадлам. Быць лаяльнымі патрабавалі і немцы, і партызаны, а за нелаяльнасць было смяротнае пакаранне.

## «Колькасць злачынстваў на ўсходзе Беларусі была большай, чым на захадзе»

**— Я неаднаразова размаўляў пра партызанскі рух са сведкамі тых падзей. Людзі на добрыя словы не шчодрыя... Але, па ідэі, менавіта за простых людзей партызаны і змагаліся.**

— Ахова мясцовага насельніцтва не ўваходзіла ў задачы партызан. Наадварот. І гэта бачна па дакументах. Саветы самі прызнавалі, што немалая частка мясцовага насельніцтва не хоча іх падтрымліваць. Чаму не хацелі? Трэба вярнуцца на некалькі гадоў назад. Возьмем Усходнюю Беларусь, як некаторыя кажуць, найбольш савецкую частку краіны. Як гісторык, я правёў мноства размоў. Людзі, вядома, пачыналі казаць пра тое, як было цяжка. Але ніхто не пачынаў ад 1941 года. Гаварылі пра 20—30-я гады, пачыналі ад калектывізацыі. Панаванне бальшавікоў было для іх паласой пераследу, няшчасця, голаду. Яны страцілі свабоду, зямлю. У калгасах яны былі фактычна рабамі на ўласнай зямлі. Частку людзей забілі, а іншых дэпартавалі. Далей уваходзяць немцы. Па якой прычыне гэтыя людзі павінны змагацца за Сталіна, абараняць НКВДыстаў, партыйных апаратчыкаў, якія столькі гадоў іх пераследавалі? Людзі іх не баранілі. Выключэннем былі камсамольцы-фанатыкі. Многія мясцовыя насельнікі проста не мелі матывацыі змагацца за бальшавізм. Для іх гэтая сістэма была антыбеларуская і антычалавечая. Калі яны ўжо і ішлі ў лес, то адбывалася гэта часта пад прымусам.

Калі я пачынаў аналізаваць дакументы пра партызанку на Навагрудчыне, то меркаваў, што крайне негатыўнае стаўленне партызан да мясцовых было выклікана тым, што значная частка насельніцтва лічыла сябе палякамі. А Саветы, як вядома, мелі антыпольскі комплекс. Але пазней я заўважыў, што тое самае было і ва Усходняй Беларусі. На ўсходзе было нават горш, бо там першапачаткова дзейнічалі больш буйныя атрады і там усё было знішчана, як пасля нашэсця саранчы. Колькасць злачынстваў там была большай, бо большай была і колькасць партызан.

**— Тым не менш вядома, што і мясцовыя жыхары ішлі ў партызаны. Гэта былі добраахвотнікі?**

— У Маскве былі дэбаты наконт таго, як прымусіць людзей ісці ў партызаны: праз афіцыйную мабілізацыю ці не. Панамарэнка сказаў, што афіцыйную мабілізацыю абвяшчаць нельга, але, па сутнасці, усё так і было. Я бачыў дакументы, дзе было напісана, што такі і такі мабілізуецца пад пагрозай смяротнага пакарання... З другога боку, бывала, што ўцякаць у лес людзей змушалі антыпартызанскія аперацыі. Возьмем аперацыю "Герман" у Налібоцкай пушчы. Немцы не давалі рады партызанам, таму вырашылі, што трэба выселіць цэлыя вёскі, каб партызанам не было за што жыць. Так ствараліся зоны смерці. Гэта было вельмі папулярным у некаторых месцах Усходняй Беларусі. Мясцовых немцы вывозілі ў Рэйх, каб мець там рабочую сілу, а партызанам нічога ў выніку не даставалася. Некаторыя людзі ўцякалі ў лес да партызан, бо баяліся таго, што з імі будзе ў Германіі. Часам да партызан беглі нават антысавецкія людзі, бо ў іх не было выхаду. Кожны выбар для беларусаў быў у той час кепскі. Гэта была трагедыя, не было выйсця, якое гарантавала б выжыванне.

**— А ці была ў партызан магчымасць, каб схіліць усё насельніцтва да супрацоўніцтва і дапамогі?**

— Канешне. Былі такія партызанскія лідары, якія патрабавалі выконваць дысцыпліну, каралі за злачынствы. Польскія партызаны, напрыклад, таксама жывіліся дзякуючы людзям. Але ў іх была іншая сістэма, яны намагаліся ставіцца да людзей па-людску. Вёскі дзяліліся на зоны, каб не выйшла так, што ў адзін дзень у адну вёску прыходзіць па некалькі партызанскіх атрадаў. Саветы ж ладзілі так званыя "бамбёжкі". Падчас некаторых такіх нападаў яны бралі ўсю маёмасць, напіваліся і нішчылі ўсё навокал. У справаздачах з цэнтра нон-стоп зазначалася, што трэба дбаць пра дысцыпліну, каб па-людску ставіцца да насельніцтва. Былі загады не паліць вёсак, не расстрэльваць без суда, была забарона для ўсіх. Цэнтр разумеў праблему і яе маштаб. У Маскве цудоўна разумелі, што партызанскі рух сам стварае антысавецкія настроі. Аднак выправіць сітуацыю ў такой масе было вельмі складана.

**— Але няўжо самі камандзіры не разумелі, што дэмаралізацыя проста знішчыць іх атрады?**

— Былі такія, што разумелі. У сваёй кнізе я шмат пішу пра Уладзіміра Нічыпаровіча. Гэта адзін з найбольшых поспехаў партызанскага руху ў Беларусі. Яго ідэі партызанскай барацьбы былі абсалютна лагічнымі. Атрад Нічыпаровіча дзейнічаў у ваколіцах Клічава і быў адным з самых баявых. Беручы пад увагу сціплыя магчымасці, яму ўдалося стварыць групу з 2000 чалавек, якая практычна сарвала нямецкую сувязь паміж Мінскам і Оршай. Немцы ўпершыню мелі дачыненне з так добра арганізаванай групай. Нічыпаровіч сядзеў у турме яшчэ ў часы вялікай чысткі. Ён ведаў, што яго чакае, калі ён не будзе змагацца. Пасля пераходу лініі фронту НКВД правярала яго. Ён некалькі разоў пісаў справаздачы пра тое, што ён рабіў да стварэння групы. Я чытаў тры ягоныя справаздачы, і яны адрозніваюцца адна ад адной. Вопытны НКВДыст адразу заўважыць, што штосьці не так. Не вядома, чым ён займаўся ад лета 1941-га да позняй зімы. Гэта "белая пляма". Я дапускаю, што ён хаваўся. Дарэчы, Нічыпаровіч памёр у Бутырцы, не дачакаўшыся перамогі. За краты трапіў у выніку ўнутрыпартыйных разборак.

**— Ці часта здаралася, што партызаны паміж сабою не ладзілі?**

— Гэта адбывалася часта. Даходзіла нават да бітваў паміж партызанскімі атрадамі. Біліся за нарабаванае дабро альбо з-за жанчын. Самагонка лілася ракой, і нагоды заўсёды знаходзіліся.

## «За парушэнне дысцыпліны — расстрэл»

**— А як камандзіры дамагаліся дысцыпліны?**

— Былі такія камандзіры, якія за правіны расстрэльвалі. У Налібоцкай пушчы, напрыклад, быў канфлікт паміж савецкімі і яўрэйскімі партызанамі. Людзі страшэнна скардзіліся на апошніх: маўляў, забіраюць усё да апошняга, яны абіралі нават тых, хто быў вымушаны жыць у зямлянках. І камандзір Чарнышоў быў за крок да таго, каб расстраляць яўрэйскага камандзіра Зорына. Але і самі савецкія партызаны не грэбавалі рабункамі. У вёсцы Конюхі (цяпер Літва) партызаны пастаянна рабавалі мясцовых, і ў выніку там была створана самаахова, каб бараніцца. Тады вёску акружылі і знішчылі. У прынцыпе, яны іншы раз рабілі тое самае, што і немцы. Быў выпадак, калі немец забіў каханку партызана, дык той так разззлаваўся, што спаліў усю вёску. Партызаны часта палілі мураваныя будынкі, пераважна школы, каб немцы не змаглі там арганізаваць пункты паліцыі. Таму вельмі часта афіцыйна гаворыцца, што немцы знішчылі нейкі будынак, а калі пачынаеш разбірацца, то аказваецца, што гэта справа рук партызан. Нават тэрмін для такіх дзеянняў быў — "прафілактычныя знішчэнні".

**— Гэта быў прынцып існавання партызан ці выключэнні?**

— Гэта была велізарная праблема. Зразумела, былі і выключэнні. Той жа Нічыпаровіч... Хаця і ён быў далёка не святы, але гэта быў бальшавік, які змагаўся. Калі ён лавіў калабаранта, то адразу яго забіваў. Нічыпаровіч быў эфектыўным партызанам. Ён прыйшоў да высновы, што такія вялікія партызанскія атрады ў тыле ворага бессэнсоўныя. Яго канцэпцыяй былі малыя групы па 100 чалавек са зброяй. Гэтыя групы маюць радыёсувязь, маюць агульную мэту, але дзейнічаюць самастойна. Ён не бачыў сэнсу, каб палкоўнік кіраваў партызанскім атрадам колькасцю ў сотню чалавек. Пасля таго як яго забралі ў Маскву, ён хацеў пайсці ў Чырвоную Армію, на фронт. Ён не хацеў вяртацца ў партызаны, пісаў Варашылаву, што гэта не мае ніякага сэнсу.

**— Партызаны маглі, напрыклад, знішчаць чыгуначнае палатно і праводзіць шкодніцкія аперацыі?..**

— Каб пашкодзіць чыгунку, найлепш было знішчыць мост, але ў Беларусі іх няшмат, бо амаль няма вялікіх рэк. Ды і немцы моцна ахоўвалі гэтыя масты. Каб знішчыць мост, спачатку трэба было разбіць пастарунак, які някепска ахоўваўся. А пашкоджанні рэек немцы рамантавалі вельмі хутка: у іх меліся адмысловыя цягнікі, і гэта было пытанне 2—3 гадзін, максімальна паўдня. Балючым ударам для немцаў было б знішчэнне чыгуначнага вузла, але ў гарады партызаны не ўваходзілі. Праўда, у 1943 годзе была вялікая рэйкавая аперацыя. Партызанам даставілі выбухоўку, і ў розных месцах адбыліся сінхронныя замахі. Аперацыя заспела немцаў знянацку, было знішчана каля 300 км чыгуначных ліній. Вось гэта ўжо было сур'ёзна, бо немцам трэба было тэрмінова пастаўляць зброю на фронт, а тут знішчаны рэйкі... Але яны хутка ўсё адрамантавалі і ўзмацнілі ахову. Праз 2-3 тыдні сітуацыя вярнулася ў норму. Пазней партызанам ужо не ўдавалася паўтарыць гэты поспех.

**— Не хапіла выбухоўкі?**

— Не. Нямецкая тактыка была такой: пакінуць партызанам тэрыторыю, дзе няма чыгуначных шляхоў. Да таго ж, там праводзіліся аперацыі па высяленні людзей, каб партызаны засталіся ні з чым. Калі глянуць на карту савецкага партызанскага руху і параўнаць яе з нямецкай, то гэта выглядае як шахматная дошка. Калі ёсць горад і чыгуначныя шляхі, то яны знаходзяцца ў руках немцаў. Калі для немцаў нейкая тэрыторыя няважная, то яна ў руках партызан.

**— А якія дзеянні партызан былі для немцаў найбольш балючымі?**

— Чыгуначныя лініі і дарогі былі найбольш балючай стратай. Калі мы параўнаем беларускую сітуацыю з Францыяй, дзе партызан увогуле не было, то тут для немцаў быў кашмар. Напрыклад, нельга было з Мінска так проста выехаць, можна было ехаць толькі ў складзе вялікай групы.

**— Як можна ацаніць эфектыўнасць партызанскага руху ў Беларусі, пастаўленыя задачы і іх выкананне?**

— Трэба браць пад увагу колькасць партызан, страты мірнага насельніцтва і шкоду, нанесеную немцам. З ваеннага пункту гледжання, гэта не мела вялікага сэнсу. Бо партызан было шмат, а вынікі невялікія. Калі цягам года ў Беларусі ад партызан загінула каля 7 тысяч нямецкіх салдат, афіцэраў і чыноўнікаў пры лічбе 100 тысяч, то гэта слабы вынік. Калі б гэтым ста тысячам чалавек далі зброю, боепрыпасы, то гэта мела б велізарны сэнс. Але Саветы не змаглі забяспечыць гэтай масе людзей добрага камандавання, зброі і харчавання. У Маскве былі дыскусіі. Гучалі галасы, што партызанскі рух у такой форме бессэнсоўны. Берыя і НКВД былі прыхільнікамі стварэння малых баявых груп, якія былі б добра ўзброены, добра падрыхтаваны, мелі канкрэтную задачу. І гэта мела б сэнс з ваеннага пункту гледжання. Нават Панцеляймон Панамарэнка прызнаваў, што многія партызаны нічога не робяць і займаюцца пераважна самі сабою. Але ў выніку стратэгія Берыі не перамагла. Праўда, маленькія групы ўсё роўна траплялі ў тыл. Іх скідвалі на парашутах, альбо яны пераходзілі лінію фронту.

**— А як выглядала пастаўка зброі праз лінію фронту?**

— Па-рознаму. Першы самалёт, які прызямліўся з мэтай падтрымкі Нічыпаровіча, увогуле прывёз улёткі. Партызаны былі страшэнна злыя. Гэта быў ліпень 1942 года. Каб мець аэрадром, трэба было яго добра ахоўваць. Такія лётнішчы былі каля Лепеля і Бягомля. Ляталі маленькія самалёты, бо вялікіх проста не было. Але колькі можна перавезці біпланам? Некалькі соцень кілаграмаў грузу. СССР не вырабляў вялікіх транспартных самалётаў. Пазней амерыканцы пачалі пастаўляць свае "Дугласы", але гэта была кропля ў моры. Вельмі часта, калі скідвалі ў капсулах зброю, то яна разбівалася. Гэта была складаная аперацыя.

## Прыпіскі былі нормай

**— У сваёй кнізе вы часта параўноўваеце нямецкія і савецкія архіўныя дакументы. І вельмі часта яны кардынальна адрозніваюцца. Хто больш хлусіў?**

— Прыпіскі ў савецкай сістэме былі шырока распаўсюджаны. Гэта не асаблівасць партызан, гэта савецкая асаблівасць. Дарэчы, Чырвоная Армія таксама гэтым займалася. Калі даць веры тагачасным савецкім дадзеным, то партызаны забілі на тэрыторыі Беларусі амаль паўмільёна нямецкіх салдат. Гэта ж уся Група армій "Цэнтр"! Але гэта пустыя лічбы, верыць ім нельга. Мне ўдалося пагартаць нямецкія справаздачы (яны высылалі зводкі раніцай і пасля абеду). Гэта былі справаздачы з Мінска пра тое, што адбывалася на чыгуначных шляхах, пра розныя замахі. Лаканічныя паведамленні: выбух там і там, пашкоджана рэек, страты... На гэтыя самыя падзеі ёсць і савецкія справаздачы. Напрыклад, немцы паведамляюць: міна выбухнула пад лакаматывам, паранены машыніст. А ў савецкіх: у выніку выбуху знішчаны два цягнікі, загінула 200 эсэсаўцаў. Як маніпулявалі лічбамі, добра бачна па бойні ў Налібоках у 1943 годзе. Спачатку ў справаздачах паведамлялася, што ахвяры — гэта 200 паліцыянтаў. Пазней яны сталі немцамі, а лічба вырасла да 400. А насамрэч аніводзін немец тады не быў забіты. І такіх выпадкаў мора. Прыпіскі былі нормай, і вышэйшае кіраўніцтва пра гэта ведала.

**— А як кіраўніцтва да гэтага ставілася? Ці былі нейкія наступствы для партызан?**

— Канешне. Штаб стараўся з гэтым змагацца, высылаў тэлеграмы, праходзілі сустрэчы. Быў выпадак з Юрыным, які далажыў, што ён ліквідаваў гаўляйтэра Кубэ. Насамрэч проста першы пра гэта даведаўся і выслаў справаздачу. І за гэта яго выслалі ў ГУЛАГ. Пра прыпіскі, дарэчы, я мог бы напісаць дзве чарговыя кнігі. Асабіста я больш веру нямецкім крыніцам, там інфармацыя больш блізкая да рэальнасці. У немцаў не было падстаў хлусіць. Наадварот, яны былі абавязаны ведаць рэальны стан рэчаў. У немцаў не было магчымасці аднаўляць свае шэрагі, а партызаны маглі. Калі ў баі гінула 250 партызан з 300, то камандзір не пісаў пра рэальныя страты. Ён тут жа праводзіў мабілізацыю — і зноў іх было 300. Калі людзі ўцякалі з лесу, то таксама гэтыя страты аднаўляліся мабілізацыяй.

**— А ці часта людзі дэзерціравалі?**

— Так, гэта была масавая з'ява. Уцякалі альбо дадому, альбо да немцаў. На Віцебшчыне ў 1942 годзе ў лясах было поўна "зялёных". Так называлі тых, хто ўцёк ад партызан са зброяй і бараніўся ад іх ужо сам у лесе. Яны намагаліся прабіцца праз "Суражскую браму". Пазней, калі яна зачынілася, то праблема адпала. Дакладных лічбаў няма і не можа быць, але можна меркаваць, што праблема была маштабнай, бо ствараліся "особые отделы", унутранае НКВД, гэта была цэлая разведсетка. Я бачыў такія дакументы, з якіх вынікала, што 10—15% партызан у атрадзе былі стукачамі. Іх справаздачы тычыліся дысцыпліны. Як я ўжо казаў, многія партызаны не былі ахвотнікамі і таму яны часта ўцякалі. За гэта былі смяротныя пакаранні для ўсёй сям'і. Немцы ведалі, што не ўсе партызаны добраахвотнікі, і часта перадавалі інфармацыю, што калі нехта ўцячэ з лесу дадому, то супраць яго не будуць прадпрымацца ніякія меры.

**— Вельмі часта можна пачуць такое меркаванне, што НКВДысты з Масквы, якіх Сталін выслаў у Беларусь, узначалілі стыхійны партызанскі рух, ліквідаваўшы яго старое кіраўніцтва. Гэта праўда?**

— Такія выпадкі здараліся. Напрыклад, вядомы камандзір Чарнышоў. Ён прызямліўся пад Лепелем і ўжо адтуль ішоў з групай у Налібоцкую пушчу, дзе партызанскія атрады былі створаны "акружэнцамі". Чарнышову ўдалося дамагчыся лаяльнасці. Гэта быў 1943 год, пасля Сталінграда, і шмат хто палічыў за лепшае далучыцца. Падпарадкаванне ў нейкім сэнсе давала магчымасць рэабілітацыі, бо да гэтага часу вынікі барацьбы, мякка кажучы, не ўражвалі. Але вельмі часта такія патрабаванні заканчваліся канфліктамі.

**— У ліпені 1944 года немцы пакідалі Беларусь. Што адбывалася пасля гэтага з партызанамі?**

— Яны выходзілі з лесу. Тыя, што карысталіся даверам, займаліся ачышчэннем лясоў ад немцаў і польскіх партызан, дапамагалі ствараць структуры савецкай улады. А іншых мабілізоўвалі і адпраўлялі на фронт. Гэта былі пераважна беларусы. Іх адразу кідалі на першую лінію фронту...

**Гутарку вёў Дзмітрый ГУРНЕВІЧ.**

### Да ведама

***Богдан Мусял*** *нарадзіўся ў 1960 годзе. Вывучаў гісторыю, паліталогію і сацыялогію ва ўніверсітэтах Гановера і Манчэстэра. Працаваў у Нямецкім гістарычным інстытуце ў Варшаве, Інстытуце нацыянальнай памяці Польшчы. Доктар навук, прафесар Варшаўскага ўніверсітэта кардынала Стэфана Вышынскага, кіраўнік кафедры Цэнтральна-Усходняй Еўропы.*

МОЗАИКА

## Финны представили новую форму белорусских биатлонисток

*Финская компания One Way Sport презентовала новую экипировку женской сборной Беларуси по биатлону.*



Костюмы разрабатывались специально к новому сезону Кубка мира и уже доставлены команде, которая сейчас проводит сбор в финском городе Вуокатти.

*“Мы гордимся, что являемся партнером команды и поддерживаем ее на трассе и вне ее!”* — отмечается на официальном сайте компании.

## Брестский БГК проиграл французскому ПСЖ

*Брестский гандбольный клуб им.Мешкова проиграл в минувшее воскресенье французскому “Пари-Сен Жермену” в матче четвертого тура группового этапа Лиги чемпионов.*

Игра завершилась в Бресте со счетом 29:28 (15:12) в пользу гостей.

18 октября в группе А были сыграны еще два матча: “Логроньо” (Испания) — “Загреб” (Хорватия) — 22:21, “Металург” (Македония) — “Киль” (Германия) — 27:42.

Турнирное положение: “ПСЖ” — 8 очков, “Киль” — 6, “Загреб”, “Логроньо” — по 4, БГК — 2, “Металург” — 0.

Следующий матч БГК проведет 15 ноября дома против “Загреба”, сообщают nsviny.by.

## БАТЭ продолжает лидировать

*В чемпионате Беларуси по футболу между БАТЭ и минским “Динамо” сохраняется трехочковый разрыв.*



19 октября в заключительном матче 27-го тура чемпионата среди команд первой шестерки жодинское “Торпедо-БелАЗ” крупно выиграло в Новополоцке у “Нафтана” — 5:1.

Накануне БАТЭ победил на выезде “Шахтер” — 4:1, а минское “Динамо” одолело в гостях “Гомель” — 2:0.

Положение команд: БАТЭ (Борисов) — 60 очков, “Динамо” (Мн) — 57, “Шахтер” (Солигорск) — 44, “Нафтан” (Новополоцк) — 41, “Торпедо-БелАЗ” (Жодино) — 39, “Гомель” — 32.

Следующий тур пройдет 26—27 октября: “Гомель” — “Нафтан”, “Шахтер”—”Динамо” (Мн), “Торпедо-БелАЗ”—БАТЭ.

Во второй шестерке 19 октября “Белшина” (Бобруйск) уступила дома “Неману” (Гродно) — 1:3, а “Слуцк” взял верх над “Днепром” (Могилев) — 2:0. Накануне брестское “Динамо” проиграло на своем поле “Минску” — 1:2.

Положение команд: “Минск” — 37, “Слуцк” — 33, “Неман” — 32, “Белшина” — 28, “Динамо” (Бр) — 25, “Днепр” — 16.

Следующий тур состоится 25—26 октября: “Белшина”—”Минск”, “Динамо” (Бр) — “Слуцк”, “Днепр”—”Неман”.

## Виктория Азаренко — уже на 32-м месте в рейтинге

*Белорусская теннисистка опустилась еще на несколько позиций.*

Для Азаренко из-за травм сезон был закончен досрочно.

Лидирует по-прежнему Серена Уильямс, на втором месте — Мария Шарапова, на третьем — чешка Петра Квитова.

Виктория Азаренко опустилась в рейтинге с 24-й на 32-ю позицию.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

*Аляксандр ХАЦКЕВІЧ:*

# «Не» я не сказаў»

*Пасля адстаўкі з пасады галоўнага трэнера зборнай Беларусі па футболе Георгія Кандрацьева на вакантнае месца ўжо з’явіліся першыя кандыдаты. Адзін з іх — у мінулым вядомы беларускі футбаліст, а цяпер настаўнік кіеўскага “Дынама-2” Аляксандр ХАЦКЕВІЧ, да якога датэлефанаваўся карэспандэнт “Народнай Волі”.*

Кандрацьеву не пазайздросціш. Прагназуемыя пасля адстаўкі крытычныя стрэлы з боку балельшчыкаў пераўтварыліся ў лівень бруду на галаву экс-кіраўніка нацыянальнай каманды. У гэтым плане беларусаў, відаць, не абскакаць нікому. Ліць бруд у Сетцы на ўсіх і ўся, седзячы на канапе, — гэта па-нашаму.

Яшчэ больш не пазайздросціш чалавеку, які прыйдзе на месца Кандрацьева. Папершае, трэнеры ў зборнай змяняліся ўжо неаднойчы, але вынік застаецца нязменным. З гэтай нагоды нават жартавалі: “Калі вынік — той жа, то навошта плаціць больш?” Па-другое, наступны адборачны матч каманда правядзе ў гасцях з іспанцамі, якія напярэдадні прайгралі славакам і зараз будуць гуляць перад сваімі балельшчыкамі з узмоцненай матывацыяй. Так што, як кажуць: “Запрашаем у пекла!” І трэцяе — у чарговы раз “точаць кіпцюры” на форумах самыя галоўныя футбольныя спецыялісты, якія пакуль яшчэ займаюцца Кандрацьевым, але ім ужо неабходна новая кроў.

Тым не менш усе разумеюць, што трэнер патрэбны і шукаць яго неабходна тэрмінова. Што, уласна кажучы, і пачала рабіць Беларуская федэрацыя футбола.

Паводле некаторай інфармацыі, пераемніка пастараюцца знайсці ў самы бліжэйшы час, бо ўжо напрыканцы кастрычніка трэба вызначацца са складам і выклікаць футбалістаў на матч са зборнай Іспаніі, які адбудзецца 15 лістапада.

Калі ж у прызначаны тэрмін новага настаўніка каманды знайсці не ўдасца, то рыхтаваць яе да “іспанскай карыды” даручаць выконваючаму абавязкі трэнера.

Кандыдатур называецца мноства: **Сяргей Бароўскі, Леанід Кучук, Віктар Ганчарэнка, Анатоль Байдачный**... Нават немца **Бернда Штанге,** які сваё ў Беларусі ўжо адваяваў, таксама не забылі.

І вось — паляцелі першыя ластаўкі! У беларускую Федэрацыю звярнуліся агенты 75-гадовага **Джавані Трапатоні** і 62-гадовага ўкраінца **Алега Блахіна** з прапановай разгледзець кандыдатуры гэтых спецыялістаў.

Таксама стала вядома, што першы намеснік старшыні Беларускай федэрацыі футбола **Сяргей Сафар’ян** правёў перамовы з галоўным трэнерам кіеўскага “Дынама-2” **Аляксандрам ХАЦКЕВІЧАМ**, што апошні і пацвердзіў:

— Так, я на самай справе сустракаўся з Сафар’янам, але нічога канкрэтнага з нагоды маёй магчымай работы на пасадзе галоўнага трэнера зборнай сказаць вам пакуль не магу, — распавёў ён.

**— Прыезд футбольнага функцыянера і сама прапанова былі для вас нечаканасцю?**

— У нейкай ступені — так.

**— Ці сочыце вы ва Украіне за выступленнем беларускай зборнай?**

— Безумоўна, тым больш што ўкраінцы і беларусы выступаюць у адной адборачнай групе. Да таго ж я застаюся беларусам, як не сачыць за роднай камандай?

**— А на чыім баку былі сімпатыі падчас матча зборных Беларусі і Украіны?**

— Калі Арцём Мілеўскі (*беларускі футбаліст, які затым прыняў украінскае грамадзянства.* — **Аўт.**) на такое ж пытанне адказаў, што яно правакацыйнае, то ў мяне ўсё досыць проста — я заўсёды балеў і працягваю балець за зборную Беларусі. Іншых варыянтаў і не разглядаў.

**— Як вам наогул сённяшняя гульня нашай зборнай?**

— А вось тут — без каментарыяў.

**— Скажам інакш: ёсць перспектывы ў гэтай каманды?**

— Перспектывы заўсёды ёсць. У зборнай хапае і ігракоў “залатога ўзросту”, і моладзі, так што можна працаваць.

**— Хто будзе прымаць рашэнне наконт вашага магчымага прызначэння на новую пасаду?**

— У першую чаргу рашэнне за федэрацыяй, бо бачу, што ў спісе кандыдатаў я не адзіны.

**— Вы будзеце канкураваць з такімі мэтрамі, як Блахін і Трапатоні. Прыемна знаходзіцца ў такой кампаніі?**

— Скажам так: я прыхільнік таго, што ў любой справе здаровая канкурэнцыя прыводзіць да добрых вынікаў.

**— Самі вы хацелі б паспрабаваць сябе ў рабоце з беларускай зборнай?**

— Слова “не” я не казаў.

**Алесь СІВЫ.**



КАМЕНТАРЫЙ СПЕЦЫЯЛІСТА

*Міхаіл МУСТЫГІН:*

# «Не там шукаем!..»

*Славуты ў мінулым беларускі футбаліст Міхаіл МУСТЫГІН выказаў “Народнай Волі” сваё бачанне прычын дрэннай гульні беларускай зборнай і распавёў аб яе перспектывах.*

— Я салідарны з былым настаўнікам зборнай Георгіем Кандрацьевым, што няма ў нас моцнай каманды, — *кажа Міхаіл Міхайлавіч.* — Трэнер падаў у адстаўку, але што зараз атрымліваецца? Хочуць знайсці панацэю — спецыяліста з-за мяжы. З Украіны, Расіі, Італіі... Ды нічога яны не зробяць! Толькі грошы (і вялікія грошы!) у кішэню пакладуць. У нас жа свае добрыя спецыялісты ёсць. Немец Бернд Штанге трэніраваў каманду — і што? Нахапалі зорак з неба? Свае няхай вучацца, нават эксперыментуюць... Бо ніводны трэнер адразу з нашай зборнай “цукерку” не зробіць. Вышэй галавы не скочыш. Вось у лістападзе чарговая гульня з іспанцамі — беларусам ізноў не пазайздросціш.

**— Чаму зборная стала нейкая бесхарактарная?**

— Няхай на мяне не крыўдзяцца футбалісты, але няма зараз у камандзе сапраўдных талентаў. Няма лідараў, якія павялі б за сабой усіх, узялі б на сябе гульню ў адказны момант. А на “сярэднячках” далёка не заедзеш. Былі б два-тры яркія футбалісты, і, я ўпэўнены, гульня зборнай была б зусім іншай.

**— Але ж выйграюць ісландцы ў галандцаў, а палякі перамагаюць немцаў…**

— Значыцца, узровень падрыхтоўкі там іншы. Настрой на матч, самаадданасць. Няхай гэта гучыць пафасна — нават патрыятызм і жаданне аддаць усе сілы за родную каманду. Не так, што прыехаў з клуба, каб адбыць нумар, — і ўсё. Натуральна, тут і трэнер павінен з’яднаць каманду, і самі іграні павінны выступаць так, каб іх не трэба было ганяць па полі пугай. Без гэтага поспеху не будзе.

**— Ці верыце вы, што новы трэнер зможа вывесці зборную на новы ўзровень?**

— Я, можа, скажу банальныя словы, але перш-наперш трэба звярнуць увагу на дзіцячы футбол. Паглядзіце, як сёння юнацкая каманда выступае: праз пень-калоду. Адкуль тады чакаць папаўнення для нацыянальнай зборнай? Мы не там шукаем...

**Аляксандр НІКАНОРАЎ.**




ШАШКІ

## Матч дружбы

Праводзіцца Беларускай і Украінскай федэрацыямі шашак паміж складальнікамі камбінацыйных праблем-64. У ім прадугледжаны тэмы А і В. У першай з іх у зыходным становішчы пазіцыі адкрытая простая белых знаходзіцца на полі сёмай гарызанталі, але дамка ўтвараецца не адразу.

Пазнаёмцеся з такой канструкцыяй М.Грушэўскага (Беларусь), з якой ён удзельнічае ў гэтым міралюбівым спаборніцтве:

**Белыя**: b4, b6, c5, d4, d6, e5, e7, g1 (8).
**Чорныя**: a3, a7, b8, d2, f8, g3, g5, g7 (8).

Пашукайце выйгрыш за белых. Свае рашэнні вы зможаце праверыць у наступным выпуску рубрыкі.

## Першынство Еўропы

Ладзілася за 100-клетачнымі столікамі ў Пінску сярод моладзі. Высокія вынікі паказалі рыцары шашачных палёў нашай краіны: чэмпіёнамі кантынента сталі Аляксей Куніца (у галоўным турніры юнакоў 1995 года нараджэння) і Марыя Часнакова (па бліцы ва ўзроставай катэгорыі юніёрак 2004 г.н.). Таксама выдатна выступілі і заваявалі бронзавыя медалі Анастасія Барышава (у старэйшай групе прэтэндэнтак і па бліцы), Яна Якубовіч у намінацыі ўдзельніц 2001 г.н. і маладзей па класічнай версіі гульні), Вікторыя Нікалаева і Міраслаў Кузняцоў (па бліцы ў адпаведных баталіях дзяўчынак і хлопчыкаў 2004 г.н.). У камандным заліку Беларусь заняла ганаровае другое месца.

Прыводзім павучальныя эпізоды з партый:

1.**Белыя** (M.Stanczuk): 15, 23, 28, 29, 33, 36, 37, 38, 42, 44, 45, 49 (12).

**Чорныя** (А.Куніца): 2, 3, 4, 5, 12, 14, 16, 17, 18, 26, 30, 35 (12). Чорныя прарываюцца ў дамкі пры сваім першым ходзе: 1... 17-22 2. 28:8 2:13 3. 23:12 13-18 4. 12:23 14-20 5. 15:24 30:50х.

2.**Белыя** (А.Барышава): 23, 24, 25, 29, 33, 36, 37, 38, 42, 48 (10). **Чорныя** (P.Chrzaszez): 3, 12, 13, 14, 15, 16, 17, 18, 21, 27 (10). Белыя выйгралі фігуру: 1. 24-20 15:24 2. 29:9 3:14 3. 37-31 18:29 4. 31:11 16:7 5. 33:24+.

3.**Белыя** (Д.Рысаеў): 15, 24, 26, 31, 33, 34, 36, 37, 38, 39, 41, 43, 45, 46, 47, 48, 49 (17). **Чорныя** (Ф.Бакач): 2, 4, 6, 8, 9, 10, 11, 12, 13, 16, 17, 18, 19, 22, 25, 27, 28 (17). Тут неразважлівы напад чорных мае абвяржэнне: 1. 33-29 2. 29-24 3. 38-32 4. 43:5 9-14 5. 5:32 22-27 6. 31:22 7. 48-42х.

4.**Белыя** (M.van Uzendoorn): 17, 22, 27, 31, 32, 35, 36, 37, 38, 39, 48 (11). **Чорныя** (H.Tamm) 6, 7, 8, 11, 13, 16, 20, 23, 24, 29 (10). Белыя рэалізавалі матэрыяльную перавагу з дапамогай камбінацыі: 1. 1712 0828 2. 2530 2435 3. 2721х.

## Праверце рашэнні

**“Пінск-2013”**: №1 (А.Перавознікаў) — b8, b6, f8, b:e1:a5, c3, c7, b4, a5+.

**Мікалай ГЛАДКІ.**





НОВОЕ В ПРАВИЛАХ ДОРОЖНОГО ДВИЖЕНИЯ

Глава государства подписал указ, направленный на повышение безопасности дорожного движения.

ДОКУМЕНТ ПРЕДУСМАТРИВАЕТ

- обязательное использование в период с 1 декабря по 1 марта зимних шин на автомобилях с технически допустимой общей массой до 3,5 т, легковых и грузопассажирских автомобилях массой свыше 3,5 т, а также автобусах массой до 5 т
- обязанность перевозки детей в возрасте до 12 лет в легковом автомобиле с использованием детских удерживающих устройств или иных средств, позволяющих безопасно пристегнуть ребенка с помощью ремней безопасности*
- увеличение времени обучения практическому вождению автомобиля при подготовке водителей механических транспортных средств категории В с 40 до 50 часов
- изменение минимальной степени светопропускания для ветрового стекла транспортного средства с 75% до 70%
- введение новых видов дорожной разметки для организации движения велосипедов, для обозначения направлений движения по полосам на перекрестках со сложной конфигурацией
- отнесение к элементам дороги расположенных на проезжей части дороги посадочных площадок и островков безопасности

* Кроме случаев, если рост ребенка превышает 150 см, а также при перевозке в автомобиле-такси.

Источник: Указ Президента Республики Беларусь №483 от 13 октября 2014 года.

© Инфографика БЕЛТА

ОФИЦИАЛЬНО

## Не хотите платить штраф?

*Александр Лукашенко подписал указ, которым внесены некоторые изменения в Правила дорожного движения. Документ вступает в силу через три месяца и предусматривает:*

— обязательное использование в период с 1 декабря по 1 марта зимних шин на автомобилях с технически допустимой общей массой до 3,5 т, легковых и грузопассажирских автомобилях массой свыше 3,5 т, а также автобусах массой до 5 т;

— обязанность перевозки детей в возрасте до 12 лет в легковом автомобиле с использованием детских удерживающих устройств или иных средств, позволяющих безопасно пристегнуть ребенка с помощью ремней безопасности (кроме случаев, если рост ребенка превышает 150 см, а также при перевозке в автомобиле-такси);

— увеличение времени обучения практическому вождению автомобиля при подготовке водителей механических транспортных средств категории В с 40 до 50 часов;

— изменение минимальной степени светопропускания для ветрового стекла транспортного средства с 75% до 70%;

— введение новых видов дорожной разметки для организации движения велосипедов, для обозначения направлений движения по полосам на перекрестках со сложной конфигурацией;

— отнесение к элементам дороги расположенных на проезжей части дороги посадочных площадок и островков безопасности.

АНЕКДОТЫ

### ОРЗ

60-летний пациент на приеме у доктора-сексопатолога.

— Моя жена объявила мне бойкот — не готовит завтрак и ужин. В чем причина?

— Может, сильно пьешь?

— Давно бросил.

— Куришь?

— Тоже бросил.

— А как супружеский долг?

— Давно завязал.

— У тебя, голубчик, ОРЗ.

— Что это?

— Очень рано завязал.

### Бизнес

Сосед соседу:

— Слышал, ты бизнесом занялся, разбогател... Как тебе это удалось?

— Я водил летом минчан в лес по ягоды, осенью — за грибами. Туда — десять тысяч рублей. Обратно — сто!

### Анекдот-загадка

Сам, как автобус, голова, как глобус, не сеет, не пашет, только ездит да руками машет. (Хрущев.)

**Анатолий ШАРАЕВ.**

*г.Фаниполь.*

Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871. Тэл.рэкламнага аддзела: (017) 3286609, 3286906
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

ISSN 2071-9647
9 772071 964000 14082

Падпісныя індэксы: 63222 — для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 — для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 03.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 20.10.2014 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25420 экз. Заказ №4156.